ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 43 (2569)
ПЯТНІЦА 22 кастрычніка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Беларускі народны карагод «Гусарыкі» ў выкананні танцавальнага калектыву вёскі Харошкі Магілёўскага раёна.



Спявае Зінаіда Абушкевіч.



Танец «Трасуха» выконваюць медсястра Галя Бажкова і навучэнец Магілёўскага культасветвучылішча Уладзімір Харашук.

Фота Ул. КРУКА.



Ансамбль «Вясёлыя балалайкі» Палаца культуры чыгуначнікаў станцыі Магілёў.

У Беларусі праходзіць рэспубліканскі тэлефестываль народнай творчасці, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза. Кожная вобласць рыхтуе канцэрт, які трансліруецца па рэспубліканскім тэлебачанні. Лепшыя нумары з гэтых канцэртаў складуць канцэрт ад Беларусі, які будзе перадавацца па Цэнтральным тэлебачанні ў другой палавіне снежня бягучага года. Так пятнаццаць сясцёр-рэспублік прымуць удзел ва Ўсесаюзным тэлефестывалі народнай творчасці.

У мінулую нядзелю гасцямі Мінска былі магілёўчане — нумары іх тэлеканцэрта вы бачыце на здымках. Справаздачу пра канцэрт чытайце на 2-й старонцы сённяшняга нумара газеты.

Наступны канцэрт адбудзецца ў нядзелю, 24 кастрычніка. Эстафету бярэ Мінская вобласць.



Беларускі народны танец «Лявоніха» выконвае народны ансамбль танца Палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна.



Жаночы вакальны ансамбль вёскі Усполле Мсціслаўскага раёна.

# ДЗЕЯЧЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА, РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ! ВЫСОКА НЯСІЦЕ СЦЯГ ПАРТЫЙНАСЦІ І НАРОДНАСЦІ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА, АДДАВАЙЦЕ ЎСЕ СІЛЫ І ЗДОЛЬНАСЦІ ВЫХАВАННЮ БУДАЎНІКОЎ КАМУНІЗМА!

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС ДА 54-й ГАДАВІНЫ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.

## ад пятніцы да пятніцы

## ПАЛЯПШАЦЬ РАБОТУ РЭДКАЛЕГІЙ

*З АДКРЫТАГА ПАРТЫЙНАГА СХОДУ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР*

Адбыўся адкрыты партыйны сход Саюза пісьменнікаў БССР, на якім абмяркоўвалася пытанне аб рабоце рэдакцыйных калегій часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Неман», «Беларусь» і штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Змястоўным было паведамленне галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» П. Кавалёва. Ён ахарактарызаваў работу рэдакцыйнай калегіі выдання як станоўчую. Члены рэдакцыйнай калегіі рэгулярна збіраюцца для зацвярджэння рабочых планаў часопіса, грунтоўна знаёмяцца з творамі, што рыхтуюцца да друку, выказваюць свае карысныя заўвагі. Асабліва значную дапамогу аказваюць часопісу пісьменнікі Іван Шамякін, Янка Брыль, Кандрат Крапіва і Анатоль Вялюгін. Але ж, на думку Паўла Кавалёва, рэдакцыйную калегію карысна было б абнавіць, папоўніць за лік вядомых беларускіх пісьменнікаў, бо менавіта рэдакцыйная калегія вызначае галоўны напрамак часопіса.

Галоўны рэдактар часопіса «Неман» А. Макаёнак, падзяліўшыся думкамі аб рабоце рэдакцыйнай калегіі, узняў слушнае пытанне аб прыцягненні да рэцэнзавання рукапісаў шырокага кола кваліфікаваных рэцэнзентаў. На думку прамоўцы, гэта значна палепшыла б адбор твораў, якія друкуюцца на старонках часопіса.

Прапанову Андрэя Макаёнка падтрымаў галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» А. Асіпенка. Ён таксама спаслаўся на пэўную складанасць у рабоце рэдакцыйнай калегіі: часам, напрыклад, вельмі цяжка зрабіць так, каб буйныя творы, якія плануюцца ў нумар, чыталіся ўсімі членамі рэдкалегіі.

З удзячнасцю гаварыў пра работу рэдакцыйнай калегіі галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Л. Прокша. Члены калегіі, асабліва такія, як народны мастак Заір Азгур, народны артыст СССР Рыгор Шырма і пісьменнікі Мікола Ткачоў і Анатоль Грачанікаў, прымаюць актыўны ўдзел у рабоце рэдакцыі, памагаюць у вырашэнні важных пытанняў. У гэтым годзе рэдакцыйная калегія заслухала на сваім пасяджэнні, як працуюць у святле гістарычных рашэнняў XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза аддзелы літаратуры, тэатра, кіно і музыкі. Аднак ёсць меркаванне збіраць такія пасяджэнні часцей.

Пра работу рэдакцыйнай калегіі часопіса «Беларусь» зрабіў інфармацыю адказны сакратар часопіса М. Досін.

У спрэчках выступілі Аляксандр Міронаў, Заір Азгур, Уладзімір Мехаў, Мікола Ткачоў, Георгій Шыловіч і іншыя. У прыватнасці, Заір Азгур, даючы ўвогуле станоўчую ацэнку рабоце рэдакцыйнай калегіі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», зрабіў заўвагу: на яго думку, трэба не так «усеядна» ставіцца да ацэнкі і публікацыі твораў выяўленчага мастацтва. Уладзімір Мехаў адзначыў, што на старонках штотыднёвіка змяшчаюцца тыя творы выяўленчага мастацтва, якія атрымалі прызнанне грамадскасці.

Падсумоўваючы вынікі гаворкі аб рабоце рэдакцыйных калегій часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Неман», «Беларусь» і штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», сакратар бюро партыйнай арганізацыі СП БССР А. Кулакоўскі падкрэсліў карысць такога абмеркавання. Выявілася і станоўчае і адмоўнае. Заслугоўвае адабрэння работа рэдакцыйнай калегіі часопіса «Полымя». І ў той жа час недаравальна, што ў часопісе «Беларусь» сёлета яшчэ не збіралі ніводнага пасяджэння рэдакцыйнай калегіі. Пажадана таксама, каб часопіс «Неман» адводзіў больш месца творам беларускіх пісьменнікаў.

На партыйным сходзе было адзначана, што некаторыя члены рэдкалегіі пры абмеркаванні твораў, прапанаваных да друку, ухіляюцца ад ацэнак і рэкамендацый, увогуле пасіўна ставяцца да ўскладзенага на іх адказнага абавязку.

Па абмеркаваным пытанні была прынята адпаведная пастанова.

Партыйны сход заслухаў таксама інфармацыю сакратара праўлення СП БССР М. Ткачова аб мерапрыемствах пісьменніцкай арганізацыі да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

## У СЯМ'І АДЗІНАЙ

*Працягваем расказваць аб тым, як работнікі культуры Беларусі рыхтуюцца адзначыць 50-годдзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.*

*Нам паведамілі:*

### У ВІЦЕБСКІМ АБЛАСНЫМ УПРАЎЛЕННІ КУЛЬТУРЫ:

— У клубах, дамах культуры, бібліятэках, — гаворыць намеснік начальніка ўпраўлення М. Шматкоў, — устаноўлены пано, вітрыны, маляўнічыя стэнды, прысвечаныя 50-годдзю СССР. «У сям'і адзінай», «Дружба народаў—вядучая сіла савецкага грамадства», «Квітней Беларусь»—вось некаторыя назвы гэтых тэматычных стэндаў.

З году ў год мацнеюць нашы сувязі з братняй Расійскай Федэрацыяй. Сустрэчы работнікаў культуры са сваімі калегамі са Смаленшчыны сталі ўжо традыцыяй. Вось і нядаўна прайшоў сумесны семінар бібліятэчных работнікаў Дубровенскага раёна нашай вобласці і Краснянскага раёна Смаленскай.

У гэтым годзе самадзейныя артысты саўгаса «Адамінкі» Лёзненскага раёна сустракаліся з працаўнікамі саўгаса «1 Мая» суседняга Руднянскага раёна Смаленскай вобласці. Абменьваюцца канцэртамі жыхары калгасаў «Іскра» Смаленскай вобласці і імя Данукалава Віцебскай. Артысты Руднянскага Дома культуры пабывалі ў калгасе «Бальшавік» Лёзненскага раёна. У кастрычніку артысты з Лёзна паедуць у госці да руднянцаў. Такі ж культурны абмен наладжаны паміж калгаснікамі нашай вобласці і жыхарамі Пскоўшчыны і братняй Літвы.

## ПЕСНІ І ТАНЦЫ ПРЫДНЯПРОЎЯ

ІХ ВОСЕМ — удзельніц этнаграфічнага вакальнага ансамбля з вёскі Усполле, што на Мсціслаўшчыне. Жыццё кожнай вартае песні. Яно прайшло ў нялёгкай сялянскай працы. Гэта—Кацярына Шэкун, Марыя Ханеўская, Палагея Казакова, Тацьцяна Сідарэнка, Зоя Капітонава, Марыя Гладкова, Сцепаніда Давыдзенка і Феня Рудкоўская. Самай старэйшай спявачцы семдзесят год, маладзейшай—за сорак. Кацярына Шэкун выгадавала шасцёра дзяцей. Трое сыноў працуюць у калгасе: адзін—кінамеханік, другі разам з бацькам будуе дамы, трэці — трактарыст. Ды і Кацярыну Васільеўну не трэба запрашаць на работу, сама бяжыць і на жніво, і на сенакос. Яшчэ тэхнічкай у калгасным клубе робіць. Ды і шаснаццаць унукаў... Клопату хапае.

Гэтак у працы жыве кожная. Але песня—самая вялікая іх любоў і радасць. На поле ідуць—спяваюць, з поля вяртаюцца—спяваюць. І свята і будні без песні не абыходзяцца.

— Прыехалі ў Мінск на канцэрт, вельмі ж хочацца выступіць у сталіцы,—расказвае Феня Рудкоўская.— А сэрца баліць, бо яшчэ не ўправіліся ў калгасе з бульбай. Адспяваем і хуценька дадому. А можа пашэнціць, яшчэ і ў Маскве выступім, —усміхаючыся, кажа старая калгасніца.

У зацішным куточку палаца чулася мелодыя прыгожай песні. Ішла «генеральная» рэпетыцыя. Успольскія жанчыны прывезлі ў Мінск дзве народныя песні з 140, якія ў рэпертуары ансамбля: «Каля гаю» і «Пад рошчаю зялёнаю». А нехта з кабет завёў і песню, складзеную ўдзельніцай ансамбля Марыяй Ханеўскай, пра родны калгас:

Ты сяло маё, сяло новае,
Ой, чым жа, сяло,
прыўкрашана?
Прыўкрашана сяло новае
Бульбаю ды капустаю...
Камбайнерамі,
трактарыстамі,
Ды самадзейнымі
артыстамі...

Можа б доўга яшчэ спявалі калгасніцы пра тое, чым знакамітае іх сяло новае, іх родны калгас «Чырвоны Кастрычнік», але пачуўся сігнал — артыстак паклікалі на сцэну.

Вядучы канцэрта аб'явіў, што этнаграфічны вакальны ансамбль з вёскі Усполле выканае народную песню «Пад рошчаю зялёнаю». Зала прыціхла, і калгасніцы заспявалі жартоўную песню пра дзяўчат, якія пасеялі лён, пра тое, як «павадзіўся сівы конь ды павытаптаў дзеўкам лён»...

Нібыта блакітныя хвалі Дняпра дыхнулі ў глядзельную залу палаца культуры Мінскага камвольнага камбіната, калі ў блакітных касцюмах на сцэне з'явіліся артысты аркестра народных інструментаў. Пад кіраўніцтвам Л. Іванова ён урачыста выканаў прэлюдыю «Слава народам Савецкай краіны» С. Шышова. Магутна прагучала песня М. Наско на словы Я. Коласа «Ленінскім шляхам» у выкананні аб'яднанага хору ў складзе народнай харавой капэлы Магілёўскага гарадскога дома культуры і хору музычнага вучылішча.

А вось ужо на сцэне вясёлая, заўжды маладая і задорная «Лявоніха» (пастаноўка народнага артыста БССР С. Дрэчына) у выкананні ўдзельнікаў народнага ансамбля танца завода штучнага валакна. Не часта ўбачыш, каб артысты-аматары з такім захапленнем выступалі на сцэне.

Адзін нумар канцэрта змяняе другі. Ансамбль народных інструментаў і ансамбль цымбалістаў з бляскам выканалі «Польку» М. Чуркіна і «Беларускія танцы» І. Жыновіча. Хораша прагучала жартоўная песня «Ой там, на таргу, на базары» ў выкананні народнага хору даярак Варатынскага сельскага клуба Бабруйскага раёна. Паспяхова выступілі салісты Зінаіда Абушкевіч, Людміла Мазалькова, Алена Петухова, Алег Галубоўскі. У чуйным суправаджэнні ансамбляў народных інструментаў і скрыпачоў і народнага сімфанічнага аркестра салісты выканалі песні Я. Глебава і Ю. Семянякі, арыёза маці з кантаты «Нам патрэбен мір» А. Новікава, народныя песні.

Упрыгожыла канцэртную праграму выступленне танцавальнага калектыву вёскі Харошкі Магілёўскага раёна. Мінчане ўжо знаёмыя з гэтым самабытным калектывам, якім кіруе загадчык сельскага клуба Іван Талкачоў—вялікі энтузіяст народнай харэаграфіі і песні. Пры яго актыўным удзеле ўзноўлены народныя танцы «Гусарыкі», «Чыжык», «Падушачка», «Субота». Асабліва цікава быў выкананы карагод «Гусарыкі» ў суправаджэнні калгасніцы-пенсіянеркі скрыпачкі Ефрасінні Васільеўны Міхайлавай. У калектыве шчасліва спалучаецца талент маладых і старых калгасніц, тых, хто яшчэ не забыў, як даўней танцавалі ў вёсцы.

Народны ансамбль танца «Вяснянка» Дома культуры аўтазавода імя Кірава выканаў віхурную «Трасуху» і імклівую «Вясковую вясёлую». Асабліва запомніліся ў танцы навучэнец культасветвучылішча Валодзя Харашук і яго партнёрка медсястра Галя Бажкова. Яны танцавалі лёгка, з задорам.

Парадаваў вакальна-інструментальны ансамбль «Вясёлыя балалайкі» Магілёўскага дома культуры чыгуначнікаў. І арыгінальныя касцюмы, і частушкі на мясцовыя тэмы, якія выконвалі маладыя чыгуначніцы, прыемна ўразілі і ўсхвалявалі. Добрай акрасай канцэрта было выступленне ўдзельніка мастацкай самадзейнасці Горацкага раёна Мікалая Мініна. На бярозце ён па-майстэрску перадаў і салаўіны пошчак, і некалькі мелодый папулярных беларускіх песень. Поспеху канцэрта ў многім спрыялі вядучыя А. Гарленка, А. Лінчэўская і В. Шчарбіна.

Гэта быў сапраўды святочны, радасны канцэрт, які засведчыў, як багата на таленты Прыдняпроўская зямля, як хораша квітнее на ёй народнае мастацтва.

**Я. ДАНСКАЯ.**

## ДА ЮБІЛЕЮ Ф. ДАСТАЕЎСКАГА

**У рэспубліцы пачалася падрыхтоўка да святкавання 150-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Ф. М. Дастаеўскага. Пры Саюзе пісьменнікаў створана юбілейная камісія ў складзе: М. Лынькоў (старшыня), Ю. Міхневіч, Я. Брыль (намеснікі), А. Адамовіч, А. Асіпенка, А. Барушка, Д. Бугаёў, П. Кавалёў, М. Красоўскі, І. Мележ, І. Навуменка, Л. Прокша, А. Сеўчанка, Я. Скрыган, Э. Цыганкоў, І. Шамякін.**

**Адбылося першае пасяджэнне камісіі пад старшынствам народнага пісьменніка рэспублікі М. Лынькова. Вырашана правесці ў бліжэйшы час юбілейны вечар, прысвечаны Ф. Дастаеўскаму. Літаратурны вечар адбудзецца і ў вёсцы Дастоева Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе жылі продкі вялікага пісьменніка. У бібліятэках рэспублікі будуць наладжаны выстаўкі твораў Ф. Дастаеўскага, у вышэйшых навучальных установах і школах пройдуць гутаркі, лекцыі, вечары.**

В. КРУТАЛЕВІЧ

# ПА КАНВЕ ВЫДУМАНЫХ КАНФЛІКТАЎ



«УСЕ ІНСТРУМЕНТЫ уздзеяння на розум, якія знаходзяцца ў руках буржуазіі, — друк, кіно, радыё,— гаворыцца ў справаздачным дакладзе ЦК КПСС XXIV з'езду КПСС,—мабілізаваны на тое, каб уводзіць у зман людзей, унушаць ім уяўленне аб ледзь не райскім жыцці пры капіталізме, узводзіць паклёп на сацыялізм. Эфір літаральна насычаны ўсемагчымымі выдумкамі аб жыцці нашай краіны, братніх краін сацыялізма».

На ідэалагічную вайну трацяцца велізарныя грошы. На яе службу пастаўлены магутныя тэхнічныя сродкі.

Гіганцкіх памераў дасягнуў прапагандысцкі апарат. Так, у амерыканскім інфармацыйным агенцтве ЮСІА, якому падпарадкавана радыёстанцыя «Голас Амерыкі», працуе 13 тысяч спецыялістаў. Па паўтары тысячы чалавек у штатах радыёстанцый «Свабода» і «Свабодная Еўропа», якія ўтрымліваюцца за кошт Злучаных Штатаў Амерыкі.

З «псіхалагічнай вайной» цесна звязана дзейнасць розных цэнтраў па вывучэнні праблем камунізма і краін сацыялістычнага лагера. У ЗША каля 170 універсітэтаў, каледжаў і іншых устаноў, якія ў той ці іншай меры займаюцца вывучэннем СССР: мовы, літаратуры, эканомікі, унутранай і знешняй палітыкі, заканадаўства, ідэалогіі, прэсы, рэлігіі і гісторыі. Найбольш буйныя цэнтры «рускіх даследаванняў» — Калумбійскі, Гарвардскі, Індыянскі, Мічыганскі, Каліфарнійскі і Вашынгтонскі універсітэты.

Паводле прыблізных дадзеных, 3 тысячы «саветолагаў» розных спецыяльнасцей выдаюць у ЗША штогод да 800 адкрытых публікацый у выглядзе кніг, брашур і артыкулаў.

Аб тым, што ўяўляе сабой прадукцыя рэакцыйных заходніх саветолагаў і як яна рыхтуецца, пойдзе гаворка ў гэтым нарысе. Для агляду мы, зразумела, маглі ўзяць толькі адзін з участкаў іх шырокай «творчай нівы».

## ПРАДМЕТ ПАВЫШАНАЙ УВАГІ САВЕТОЛАГАЎ

ДА НЕКАТОРЫХ бакоў унутранага жыцця СССР і яго гісторыі ў амерыканскіх, англійскіх і заходнегерманскіх саветолагаў павышаная цікавасць. Гэта, у прыватнасці, сфера нацыянальных адносін. Бадай, няма іншай галіны, дзе б так скажаліся факты, падзеі, працэсы, гісторыя.

Павышаная цікавасць саветолагаў да нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе, да нацыянальнай палітыкі КПСС зразумелая. Створаная на базе сацыялістычнага ладу, шматнацыянальная дзяржава стала прыкладам дружбы народаў, фактарам, які аказвае ўсё большае ўздзеянне на ход сусветнай гісторыі. Усё шырэйшае разгортванне нацыянальна-вызваленчага руху, распад калісьці магутных каланіяльных імперый, міжнацыянальныя і расавыя канфлікты ў капіталістычным свеце робяць яшчэ больш пераканаўчым і прыцягальным прапанаваны сацыялізмам шлях вырашэння нацыянальнага пытання.

Нацыянальная праблема прыцягвае нашых класавых праціўнікаў і яшчэ ў адным плане. У пошуках «слабых месц» у савецкім грамадстве і Савецкай дзяржаве асобыя надзеі ўскладаюць на сферу нацыянальных адносін. Менавіта тут яны намагаюцца знайсці супярэчлівыя тэндэнцыі і цэнтрабежныя сілы. Так, прыбягаючы да ілжэнавуковых паралеляў, англійскі гісторык Г. Сетан-Уотсан піша: «З'яўляецца ісцінай, што нацыяналізм асабліва моцна выражаны ў тых краінах, якія яшчэ з'яўляюцца калоніямі заходніх дзяржаў. Цяжка сказаць, ці з'яўляецца нацыяналізм яшчэ моцным сярод нярускіх народаў Савецкага Саюза пад покрывам таталітарызму, але гістарычны вопыт іншых імперый наводзіць на думку, што гэта менавіта так».

Нацыяналізм і шавінізм — адна з самых галоўных ідэалагічных прылад ворагаў камунізма. Пралетарскаму інтэрнацыяналізму, згуртаванню народаў у барацьбе за мір і прагрэс супрацьпастаўляецца ідэалогія варожасці, нацыянальнай выключнасці. Карыстаючыся шырокім арсеналам прапагандысцкіх сродкаў, яны ўсяляк раздуваюць нацыянальнае, супрацьпастаўляючы яго агульным інтарэсам народаў сацыялістычных краін, спрабуюць іграць на нацыянальных пачуццях, імкнуцца ажывіць даўно адвергнутыя ідэі, выклікаць падазронасць і недавер. Варожая ідэалогія ўсюды шукае сабе глебу, каб сеяць атрутныя зерні. Нацыяналістычныя перажыткі (а яны, як вядома, характэрны вялікай жывучасцю і кансерватызмам) якраз і ёсць тое спажыўнае асяроддзе, дзе імперыялістычная прапаганда спрабуе збіраць ураджай.

Нават пры беглым азнаямленні з сучаснай буржуазнай літаратурай выяўляеш пэўную спецыялізацыю саветолагаў. Адны, напрыклад, амерыканскія гісторыкі і сацыёлагі, спецыялізуюцца па савецкіх рэспубліках Сярэдняй Азіі (А. Парк, С. Зянкоўскі, М. Рыўкін), другія — па Украіне (А. Адамс, Р. Салівэн, Б. Дзмітрышын), трэція — па Беларусі (Н. Вакар), чацвёртыя — па тэарэтычных пытаннях савецкай нацыянальнай палітыкі і федэралізме (А. Інкелес, А. Лоу, Ф. Багхорн, Э. Гудман), пятыя пішуць абагульняючыя работы (Р. Пайпс).

З прычыны агульнасці ідэйных пазіцый і мэт незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці саветолагі адчуваюць локаць адзін аднаго, складаюць агульны фронт у ідэалагічнай барацьбе. Нацыянальныя адрозненні ўплываюць толькі на стыль, тэматычны напрамак. Розніца, галоўным чынам, у аргументацыі, выкладанні матэрыялу, уменні «падаць» яго чытачу і г. д. Але дух, ідэйная накіраванасць застаюцца адзінымі для ўсіх. Агульныя адпраўныя ідэі і ўстаноўкі вандруюць з адной работы ў другую. З гэтага пункту гледжання малая розніца паміж прыхільнікам нацызму немцам Е. Енгельгартам і амерыканцам Р. Пайпсам. Аднымі і тымі ж прынцыпамі кіраваліся яны, асвятляючы нацыянальную палітыку Савецкай Расіі, хоць кнігі выдадзены на розных мовах і ў розны час.

«Даследчыя цэнтры» па вывучэнні СССР не пакідаюць без увагі Беларусь. Пэўнае месца тут адведзена і розным «інстытутам», дзе супрацоўнічаюць рускія белаэмігранты, здраднікі радзімы перыяду другой сусветнай вайны. Ажыццяўленне нацыянальнай палітыкі і, у прыватнасці, нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва — цэнтральная тэма ў «навуковай» прадукцыі так званага «Інстытута беларускай навукі і мастацтва». Зноў і зноў уваскрашаецца тое, што было калісьці напісана беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі. Асабліва настойліва прапагандуецца ідэя аб тым, што Савецкая ўлада і Беларуская Савецкая Рэспубліка навязаны народу звонку, што бальшавікі быццам устанавілі свой кантроль над Беларуссю і г. д. і да т. п. Гістарычная тэматыка нярэдкая і ў перадачах радыёстанцыі «Свабода». І ўсюды тыя ж прыёмы фальсіфікацыі і падтасоўкі. Нават цытаты з работ савецкіх аўтараў нярэдка падаюцца ў прэпараваным выглядзе.

У гэтым нарысе аналізуюцца «погляды» саветолагаў па такім важным пытанні гісторыі беларускага народа, як стварэнне яго суверэннай нацыянальнай Савецкай дзяржавы. Спецыяльных работ на англійскай, нямецкай і французскай мовах па гісторыі Беларусі першых гадоў Савецкай улады мы не выявілі. Аднак аб нацыянальным руху, утварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі можна прачытаць у многіх кнігах і артыкулах, прысвечаных гісторыі СССР наогул. Да гісторыі ўтварэння савецкіх нацыянальных рэспублік, у тым ліку БССР, у той або іншай сувязі, у тым або іншым плане звяртаюцца многія буржуазныя юрысты, гісторыкі, саветолагі, публіцысты. Кожны ў сваім «амплуа» спрабуе расказаць чытачу аб прыродзе савецкай федэрацыі, раскрыць яе сапраўдныя мэты, прычыны ўтварэння нацыянальных рэспублік, СССР і г. д.

## ПА ГАТОВАЙ СХЕМЕ БЕЗ ВЕДАННЯ ФАКТАЎ

СЯРОД НАВЕЙШАЙ гістарычнай літаратуры аб нацыянальнай палітыцы СССР вылучаецца перш за ўсё кніга амерыканца Рычарда Пайпса «Фарміраванне Савецкага Саюза. Камунізм і нацыяналізм. 1917—1923». Ужо сама назва кнігі гаворыць аб тым, за якую важную, складаную і працаёмкую тэму ўзяўся намеснік дырэктара Рускага даследчага цэнтра ў Гарвардскім універсітэце.

Трэба адзначыць, што сярод саветолагаў ёсць аўтары, свайго роду «класікі», на работы якіх робяцца пастаянныя спасылкі, як на прызнаныя аўтарытэты. І, несумненна, такім аўтарытэтам лічыцца Р. Пайпс. Кніга аб'ёмам 300 старонак, якая выйшла ў 1954 г., праз дзесяць гадоў была перавыдадзена. Спецыялісты, рэцэнзенты называлі кнігу «вельмі важным даследаваннем», «фундаментальнай работай» і г. д., рэкамендавалі яе як дапаможнік для іншых «даследчыкаў» савецкай нацыянальнай палітыкі.

А цяпер звернемся да раздзелаў кнігі, дзе аўтар падае гісторыю Беларусі. Як і ўся работа ў цэлым, раздзелы пра Беларусь не даследаванне, а своеасаблівая кампіляцыя. Р. Пайпс бярэ факты з работ савецкіх аўтараў В. Кнорына, З. Жылуновіча, В. Шчарбакова і іншых і ўціскае іх ва ўжо гатовую схему. Адвольна нацяганыя факты «павернуты» ў патрэбным кірунку. Здараецца, што Р. Пайпс указвае савецкую крыніцу, а ў ёй зусім няма таго, аб чым ён піша. У кнізе, напрыклад, гаворка ідзе аб тым, што мясцовыя арганізацыі дапускалі недаацэнку нацыянальнага пытання, а амерыканскі гісторык прыпісвае гэта Цэнтральнаму Камітэту РКП(б), які, як паказваюць гістарычныя факты, рашуча змагаўся з нацыянальным нігілізмам, папраўляў і накіроўваў мясцовыя арганізацыі. Асабліва гэта ярка відаць на прыкладзе гісторыі стварэння БССР. Крыніцы, здавалася б, зусім правільныя, а канцэпцыя, вывады аўтара вытрыманы ў духу антысаветызму. Зусім зразумела, што шматлікія спасылкі на савецкія крыніцы павінны стварыць бачнасць навуковай аб'ектыўнасці і непрадузятасці.

Але пойдзем далей. Пасля звяржэння ўлады Часовага ўрада, піша Р. Пайпс, «антыбальшавіцкія сацыялістычныя партыі» распаліся, і палітычнае поле засталося за дзвюма сіламі, а менавіта бальшавікамі, якія кантралявалі большую частку рускай арміі, і Беларускай радай, якая мела ўплыў сярод мясцовых салдат і інтэлігенцыі. Тут усё змешана. І пасля звяржэння ўрада Керанскага дробнабуржуазныя партыі (або як іх называе Р. Пайпс — антыбальшавіцкія партыі) яшчэ не распаліся, а працягвалі лютую барацьбу супраць дыктатуры пралетарыяту, выкарыстоўваючы думы, земствы, выбары ва Устаноўчы сход, прэсу. Менавіта яны, а не Беларуская рада, адыгрывалі галоўную ролю ў барацьбе контррэвалюцыйных сіл супраць Савецкай улады. Гэтыя сілы блакіраваліся з радай і сумесна склікалі ў снежні 1917 г. т. зв. Беларускі з'езд.

Аднак далей, прыціснуты фактамі, Пайпс вымушаны будзе не раз ухіляцца ад сваёй прадузятай схемы. Насуперак самому сабе ён заяўляе, што аддзяленне Беларусі ў 1917 г. (аўтар мае на ўвазе скліканне нацыяналістычнага Беларускага з'езда) было эфемерным актам.

Калі ж быць дакладным, дык з'езд наогул не прымаў рашэння аб аддзяленні Беларусі. Амерыканскі гісторык павінен быў прызнаць, што беларускія нацыяналісты адчувалі недахоп у «народных паслядоўніках». Гаворачы аб сацыяльнай глебе «беларускага руху», Р. Пайпс прызнае, што ён быў «слабейшы з усіх». Р. Пайпс вымушаны таксама прызнаць непапулярнасць беларускіх нацыяналістаў сярод працоўных і аўтарытэт бальшавікоў, якія ўзначалілі народ у барацьбе за выгнанне захопнікаў— нямецкіх і белапольскіх.

Як бы папраўляючы самога сябе, Р. Пайпс сцвярджае, што грамадзянская вайна і савецкае кіраванне зрабілі «беларускі рух» спелым, што «акт аддзялення дасягае палітычнай і філасофскай значнасці». Але ўсё гэта засталося голай дэкларацыяй.

(Працяг на стар. 4—5.)

# ДРУЖБА ТВОРЧАЯ І АСАБІСТАЯ

Сярод зарубежных гасцей IV Усесаюзнага фестывалю тэлевізійных фільмаў быў у Мінску рэдактар драматычных перадач Пражскага тэлебачання Отакар Фенцл. У свой час ён пераклаў п'есу Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім», спектакль па якой быў пастаўлены ў Празе Чэхаславацкім тэатрам народнай арміі. Менавіта таму мы і звярнуліся да О. Фенцла з шэрагам пытанняў.

— Чым прывабіла вас п'еса беларускага драматурга?

— П'еса «Хто смяецца апошнім» вельмі характэрная для свайго часу. А мне асабіста яна ўяўляецца працягам традыцый савецкай драматургіі, пачатых сатырычнымі п'есамі Маякоўскага. Таму я і пераклаў п'есу.

— Вы былі на спектаклі ў Празе? Якое ўражанне ён пакінуў?

— Спектакль атрымаўся вельмі цікавы. Рэжысёр паставіўся з павагай да аўтарскай задумы, хоць знаўцу вашага побыту спектакль, можа, і не задаволіў бы — мы былі не вельмі ўпэўнены ў некаторых дэталях адзення, напрыклад. А ўвогуле спектакль быў у рэпертуары даволі доўга і меў вялікі поспех у гледача. Я хацеў паглядзець спектакль «Хто смяецца апошнім» у купалаўцаў, але, на жаль, не змог.

— Вашы ўражанні ад нашай сталіцы, краіны?

— На Беларусі я ўпершыню, хоць ведаю яе па розных фільмах, якія паказвала наша тэлебачанне. Беларускі пейзаж вельмі падобны да нашага—многа лясоў.

Мінск мне вельмі падабаецца. Як я чуў, ён адбудаваны пасля вайны зусім нанава. Але я Мінск ведаў яшчэ да сустрэчы з ім — па працах прагрэсіўных еўрапейскіх тэарэтыкаў архітэктуры. Добра памятаю здымкі Дома ўрада, опернага тэатра, даваеннага кінатэатра «Чырвоная зорка».

Быў у Хатыні. І сама ідэя помніка, і яе вырашэнне—вельмі сучасныя. Няма ніякай пампезнасці і груваcткасці, нішто не перашкаджае натуры. Пераклічка званоў уражвае—і надоўга.

— Некалькі слоў пра беларускія фільмы...

— Вялікае ўражанне на мяне зрабілі дакументальныя фільмы, зробленыя на матэрыяле старых кінахронік. Сам мантаж кадраў надае гэтым фільмам своеасаблівую драматычнасць. Упэўнены, што намі будзе закуплены фільм пра Хатынь. З мастацкіх фільмаў бачыў «Івана Макаравіча». І мушу сказаць, што не толькі на мяне, але і на ўсіх зарубежных удзельнікаў фестывалю фільм зрабіў надзвычай глыбокае ўражанне. Мы сябе лічым гледачамі крыху прафесійнымі і бесстароннімі, і каб на пачуцці такога гледача фільм падзейнічаў непасрэдна — такое здараецца не часта. Але калі здараецца, значыць, аўтару ўдалося ажыццявіць сваю задуму і стварыць добры фільм...

А потым у нашага госця было спатканне з Кандратам Кандратавічам Крапівой, ішла гутарка пра літаратуру, тэатр, славістыку... Кандрат Кандратавіч прыгадаў свае сустрэчы са Здэнекам Няедлым у Маскве ў 1942-43 гг., паездку ў Чэхаславакію ў 1946 г. На развітанне ён дарыць госцю сваю новую кнігу.



Кандрат Крапіва гутарыць са сваім чэшскім перакладчыкам Отакарам Фенцлам.

А. МАЖЭЙКА,
А. ГАБРЫЭЛЯН.



Яны сустрэліся праз трыццаць гадоў зноў у Брэсцкай крэпасці. Злева направа: А. Каландадзе, Д. Абдулаеў і П. Лаенкоў.

# ТУЛУЗА ВІТАЕ РУСКІХ

Высокі пажылы мужчына ўважліва разглядаў здымак маладога салдата. Як падобны гэты чалавек да таго — на фатаграфіі. Ля аднаго са стэндаў музея мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» Аляксандр Паўлавіч Каландадзе сустрэўся са сваім юнацтвам.

А пад шклом, побач са здымкам, нататка з газеты «Правда» за 4 кастрычніка 1944 года. Называецца «Захапляючая сустрэча рускага батальёна ў Тулузе». Двойчы, тройчы перачытвае яе ветэран, успамінае...

Вогненны досвітак 22 чэрвеня 1941-га. А потым баі, баі... Радзеюць рады абаронцаў крэпасці. Больш як тыдзень ён, намеснік палітрука 3-й роты 1-га батальёна 333-га стралковага палка, не выпускае зброі з рук. У адной сутычцы быў паранены, узяты ў палон і кінуты ў канцлагер каля польскага гарадка Бяла-Падляска. Потым пераведзены ў Люблінскую турму, адкуль неўзабаве ўцёк. Уступіў ў рады антыфашысцкага падполля.

Хутка Аляксандр Каландадзе зноў апынуўся за калючым дротам, гэтым разам у лагеры ваеннапалонных у паўднёвым французскім горадзе Кармо. У канцы ліпеня ў лагеры выбухнула паўстанне. Вязні перабілі ахову, авалодалі яе зброяй і ўцяклі. У гарах ля гарадка Жукевіл сабралася больш ста чалавек — савецкія ваеннапалонныя, французы, чэхі, славакі — тыя, хто некалькі гадзін назад набыў свабоду. Вырашылі стварыць партызанскі атрад. Камісарам аднадушна назвалі камуніста Каландадзе.

Першы цяжкі бой атрад правёў з карнай экспедыцыяй літаральна праз некалькі дзён, 4 жніўня.

— У лясах пад Кармо хавалася ад рабства больш 15 тысяч жанчын, падлеткаў, дзяцей, — расказвае Аляксандр Паўлавіч. — Карнікі намерваліся жорстка з імі расправіцца. Але мы і байцы іншых атрадаў, якія дзейнічалі ў гэтай зоне, сустрэлі фашыстаў агнём. Асабліва мужна біліся рускія салдаты. Каля трохсот гітлераўцаў знайшлі смерць ад партызанскіх куль. А назаўтра, 5 жніўня, у Жукевілі брацкая магіла прыняла пяцьдзесят загінуўшых за свабоду Францыі байцоў атрада.

На змену загінуўшым у строй станавіліся новыя байцы — уцекачы з іншых канцлагераў, савецкія ваеннапалонныя. У жніўні атрад у складзе сіл французскага Супраціўлення ўдзельнічаў у штурме Кармо. Авалодаўшы горадам, макі развівалі наступленне на цэнтр дэпартамента Тарн — горад Альбі. На дапамогу адступаўшым часцям фашысты кінулі падмацаванне.

— Ля пасёлка Гарык, — успамінае Каландадзе, — з'явіліся танкі з крыжамі. Завязаўся бой. Нашымі дзеяннямі ўмела кіраваў французскі падпалкоўнік, якога мы звалі Эдмунд. З захопленых у немцаў гармат мы расстрэльвалі іх танкі. Вораг адступіў. Маршам увайшлі мы ў Альбі. Французы сустракалі вызваліцеляў са сцягамі і кветкамі.

Атрад вырас у батальён. Пядзю за пядзяй ачышчаў ён французскую зямлю ад фашысцкай нечысці. Прымаў удзел у вызваленні Кастра і Тулузы.

...І вось гэтая нататка, якую Каландадзе перачытваў больш як праз чвэрць стагоддзя. У ёй карэспандэнт ТАСС пераказаў змест справаздачы з газеты «Ла вуа дзю Мідзі». «Насельніцтва Тулузы, — пісала французская газета, — наладзіла трыумфальную сустрэчу рускаму батальёну. Больш 20 тысяч жыхароў горада выказвалі ўчора сваю радасць і захапленне рускімі салдатамі... Бездакорная выпраўка і цвёрды крок байцоў батальёна выклікалі захапленне натоўпу, які прарваў кардон аховы, каб абняць гэтых людзей, якія, нягледзячы на цяжкія пакуты, ніколі не пераставалі верыць у сваю Радзіму і якія да канца змагаліся за знішчэнне фашызму».

— Так, гэта цяжка забыць, — гаворыць былы камісар батальёна. — З хваляваннем слухалі мы прывітанне старшыні мясцовага аддзялення Таварыства «Францыя — СССР» пана Барбю. Ён адзначыў рашаючае значэнне Савецкага Саюза ў разгроме агульнага ворага.

Цяжка забыць і ваенны парад у Тулузе, калі батальён другі раз выйшаў на вуліцы горада. Мяне, як камісара, запрасілі на трыбуну, дзе ад імя савецкіх патрыётаў, якія змагаліся ў радах макі, я далажыў генералу дэ Голю аб баявых дзеяннях батальёна. Генерал высока ацаніў франка-савецкае братэрства па зброі ў сумеснай барацьбе супраць нацызму.

Францыя высока ацаніла подзвігі тых, хто змагаўся і праліваў кроў за яе свабоду. Многія байцы батальёна былі ўзнагароджаны. Пяць ордэнаў і медаляў Французскай рэспублікі ўпрыгожылі грудзі камісара. «Афіцэр вялікай мужнасці, які адзін з першых перайшоў у «макі» паўднёвага захаду Францыі, здолеў згрупаваць вакол сябе 100 савецкіх салдат... Заўсёды падаваў цудоўны прыклад свайму атраду» — гэтыя радкі пра Каландадзе чытаем у генеральным загадзе № 293 ад 5 ліпеня 1945 года ваеннага губернатара Парыжа, былога камандуючага Унутранымі Французскімі Сіламі, з выпадку ўзнагароды Аляксандра Каландадзе Ваенным крыжам і Сярэбранай зоркай.

Адгрымелі залпы вайны. Але не адразу паехаў дамоў Аляксандр Каландадзе, якога прызначылі афіцэрам сувязі пры савецкай ваеннай місіі ў Парыжы. А калі ступіў на родную зямлю, заплакаў, можа першы раз за ўсе гэтыя гады. Гэта былі слёзы радасці...

Зараз Аляксандр Паўлавіч Каландадзе жыве і працуе ў Тбілісі. Стаў вучоным і пісьменнікам. Доктар філалагічных навук, прафесар, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры Грузінскай Акадэміі навук ён апублікаваў больш 100 навуковых работ. Тэматыка гэтых даследаванняў даволі шырокая — гісторыя грузінскай і рускай журналістыкі, гісторыя грузінскай, рускай і еўрапейскай літаратуры, гісторыя літаратурнай крытыкі. Напісаў былы абаронца цытадэлі над Бугам, удзельнік антыфашысцкага падполля ў Польшчы і французскага Супраціўлення тры дакументальныя творы — «Дні Брэсцкай крэпасці», «На польскай зямлі», «У макі».

...Праз трыццаць гадоў прыехаў Аляксандр Паўлавіч Каландадзе ў Брэст. Усё яго тут хвалявала — і свяшчэнныя камні, і рубцы на абпаленых сценах бастыёнаў, і незабыўныя сустрэчы з аднапалчанамі, якія сабраліся на адкрыццё мемарыяльнага комплексу... Разам з былымі абаронцамі крэпасці Філіпам Лаянковым і Даніялам Абдулаевым успомніў удзел ў французскім Супраціўленні. Гаварылі ветэраны аб дружбе савецкага і французскага народаў, загартаванай у агні мінулай вайны.

**Ул. ФРЭЙДЗІН.**




## ПЕРАСЦЯРОГА

**Мао і яго памагатыя глядзяць на народ як на вялікі статак, які павінен слепа падпарадкоўвацца іх волі.**

*З газетнага артыкула.*

Людзі, не збівайцеся у статак!
Знаю: моцны статкавы пачатак,
знаю: тужым мы па ім падчас,
знаю: так і падмывае нас—
збіцца ў статак,
збіцца і згубіцца
недзе ў самай гушчыні яго,
збіцца ў статак,
збіцца і пазбыцца
вобліку і голасу свайго.
Збіцца ў статак,
важаку скарыцца,
і у той пакорнасці сляпой
тупаць да агульнага карытца,
тупаць на агульны вадапой.
Гэта так спакуслівa:
скарыцца,
у саку агульным растварыцца.
Гэта так спакуслівa,
так цешыць:
ад цябе нічога не залежыць.
Гэта так заманліва,
так вабіць:
спіць тваё сумленне,
твая памяць.
Гэта так заманліва...
І ўсё-ткі
як бы гэты зман ні быў салодкі,
не прымайце, людзі, гэты зман,
не прымайце стаднасці дурман.
Вы рабіце разам свае справы,
вы варыце разам свае стравы,
ешце разам з аднаго катла,
грэйцеся ля аднаго кастра.
Пры жаданні паспявайце хорам,
павадзіце разам карагод.
Ёсць пытанні—сабірайце кворум,
сабірайце форум, веча, сход.
Можаце патупаць нават строем,
калі вас збярэцца больш, чым
трое
(калі менш, які там будзе строй,
не скамандуеш: «Рады уздвой!»).
Толькі не збівайцеся ў атару,
толькі не губляйце свайго твару.

Вы жывіце разам, ды не ў гурце,
а на іншым, на разумным грунце.
На другой яднайцеся аснове —
на аснове дружбы і любові,
на аснове чалавечай роднасці,
на аснове чалавечай годнасці.
Збіцца ў статак—
гэта не адзінства,
збегчы ў статак—
гэта дэзерцірства.
Гэта дэзерцірства пад агнём,
пад святлом, што розумам завём.

# ПА КАНВЕ ВЫДУМАНЫХ КАНФЛІКТАЎ

(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)

Калі загадзя навязаная схема, што патрабуе падтасоўкі фактаў, да таго ж яшчэ грунтуецца на павярхоўным веданні крыніц, то ў выніку атрымліваецца вельмі скажоная карціна гістарычнай рэчаіснасці. Р. Пайпс сцвярджае, што Беларускі кангрэс быў распушчаны прасавецкімі войскамі «па ўказцы з Масквы». Але вядома, што ў той час (снежань, 1917 г.) урад Савецкай рэспублікі і ЦК РСДРП былі ў Петраградзе, а не ў Маскве. На самай справе, Беларускі кангрэс, як паказваюць дакументальныя матэрыялы, быў распушчаны выключна па ініцыятыве самой мясцовай улады. Аб роспуску неадкладна было паведамлена ЦК партыі, Саўнаркому і Наркамнацу. Цэнтральныя і савецкія органы адобрылі дзеянні Саўнаркома Заходняй вобласці.

У процівагу Беларускаму з'езду, які, паводле сцвярджэння Р. Пайпса, «спрабаваў устанавіць незалежную Беларускую рэспубліку», «камуністычныя органы» ў Мінску «пры падтрымцы рускіх войск Заходняга фронту», стварылі першы Савецкі ўрад Беларусі. З апублікаваных крыніц, а таксама з тых, на якія спасылаецца і сам Р. Пайпс, відаць, што ў 1917 г., пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, у Беларусі не ствараўся беларускі савецкі ўрад. Быў Абласны выканаўчы камітэт і падначалены яму Савет Народных Камісараў, які толькі сваёй назвай быў падобны на ўрад рэспублікі, а на справе з'яўляўся выканаўча-распараджальным органам Абласнога выканаўчага камітэта.

Вельмі заблытаная ў Р. Пайпса гісторыя абвяшчэння БССР. З'яўленне нацыянальных рэспублік, у тым ліку і БССР, было звязана нібыта з неабходнасцю супрацьпастаўлення бальшавікамі сваёй праграмы нацыяналістам, каб захаваць адзінства былой Расійскай дзяржавы. Р. Пайпс, дарэчы, не спрабуе даказаць або пацвердзіць чым-небудзь гэты свой зыходны тэзіс. Ён піша, што ў «снежні 1918 г. пытанне аб будучым статусе Беларусі стала прадметам абмеркавання на кангрэсе (?!) Паўночна-Заходняга камітэта Рускай камуністычнай партыі, які сабраўся ў Маскве». Пайпс сцвярджае, што абвяшчэнне рэспублікі адбылося па ўказцы Савецкага ўрада, які рашыў, што Беларусь павінна стаць нацыянальнай рэспублікай. І першым крокам у гэтым кірунку было ўказанне зверху аб пераіменаванні абласнога партыйнага Камітэта ў Камуністычную партыю Беларусі.

Усё тут пераблытана і скажона. Папершае, Паўночна-Заходні камітэт знаходзіўся не ў Маскве, а ў Смаленску. Падругое, у Камуністычную партыю Беларусі, у сувязі з абвяшчэннем БССР быў пераіменаваны не абласны партыйны камітэт, а ўся абласная бальшавіцкая арганізацыя.

Саветолаг старанна абыходзіць факты (яны не ўкладваюцца ў схему), якія сведчаць аб імкненні працоўных Беларусі мець сваю нацыянальную дзяржаву на савецкай аснове. Гэтыя імкненні былі падтрыманы ЦК Кампартыі і Савецкім урадам .

Члены Часовага ўрада Беларусі, прадстаўнікі беларускіх камуністычных секцый інакш не называюцца, як «беларускімі нацыяналістамі». Без усялякіх падстаў Р. Пайпс заяўляе, што «беларускія нацыяналісты» ва ўрадзе, «незадаволеныя сваёй малой уладай, звярталіся ў Маскву за дазволам сфарміраваць другую, выключна беларускую камуністычную партыю, у чым ім было адмоўлена». На справе гаворка ішла аб захаванні пасля абвяшчэння БССР беларускіх камуністычных секцый. Цэнтральным Бюро КП(б)Б далейшае існаванне секцый было прызнана немэтазгодным.

Цалкам перакручана гісторыя ства-

## ШТО СНІЦЦА КУРАМ

Не ведаю я, што сніцца арлам
у гнёздах іх, пад нябёсамі,
Ведаю я, што сніцца курам,
калі яны спяць на куросадні.
Няцяжка ўявіць курыныя сны...
Шукае курыца цэлымі днямі
свой корм—на таку,
на сметніку,
ў яме,
шчыруе яна ад зары да зары.
Тым і жыве,
для таго і жыве.
Ёй сон бы той бясконца сніць.
Ды раптам певень—недарэка
залопае, закукарэкае,
і абрываецца сну ніць...

## ЭЛЕГІЯ ЧАКАННЯ

Яна ўсё не ідзе,
яна ўсё спазняецца.
А можа яна прайшла міма
і не заўважыла?
А можа прыходзіла ў другі час?
А можа прыходзіла на другое
месца?
А можа мы дрэнна дамовіліся?
А можа...
на мае плечы падае пыл —
зямны і касмічны.
Лісце і зоры падаюць на мае
плечы.
Я адчуваю іх цяжар.
Але яшчэ больш цяжар маёй
адзіноты.
Дзе ж яна?
Ці яна ўжо была?
Ці яна ўжо прыходзіла? —
і працягвала мне насустрач рукі,
і смяялася,
і гаварыла: «Харошы мой».
і гаварыла: «Люблю».
Ці, нічога не гаворачы,
проста тулілася да мяне

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# НА АСНОВЕ ЧАЛАВЕЧАЙ РОДНАСЦІ, НА АСНОВЕ ЧАЛАВЕЧАЙ ГОДНАСЦІ...

Толькі і знае, што несці яйкі.
Думкі другой няма ў галаве.
А гонар які? А гонар ніякі.
А слава якая ідзе па пятах?
Што курыца—
гэта зусім не птушка,
а толькі нясушка ды квактушка,
што песня адна ў яе—
квох ды кудах,
што кветка адна ў яе—
кураслеп,
хвароба адна—
слепата курыная.
Нялёгкі яе, курыны хлеб,
доля яе, курыная, крыўдная.
Быў бы хоць певень добры ў яе,
які паважае свае абавязкі.
А ў гэтага выгляд хоць і баярскі,
а ласкі баярскай не дае.
Тузане на ходу за віхор,
і ўжо лапоча з палёгкай крыламі,
і ўжо імчыць на суседні двор
за чужымі хвастамі курынымі.
І вось летуціцца курыцы ў сне,
калі яе ноч на жэрдках гушкае,
што стала яна сапраўднай
птушкаю
і ляціць, ляціць у сіняве.
Ляціць за трыдзевяць зямель.
А побач птах яе адзіны,
аддаиы ёй, як журавель,
пяшчотны, з шыяй лебядзінай...

Нехта ідзе сюды.
Здаецца, знаёмыя крокі,
здаецца, знаёмая постаць.
Нарэшце, яна ўсміхаецца мне
і вось-вось працягне мне рукі,
і я працягну свае...
Не, я зноў памыліўся.
Гэта не яна... не яна... не яна.
Але дзе яна?
Што з ёю?
Ці прыйдзе яна наогул?
Ці можа яе не было зусім?
Можа я яе выдумаў?
Можа яна зусім не павінна
сюды прыходзіць,
пад гэтае вось дрэва,
пад гэты вось ліхтар,
на гэтае скрыжаванне.
Можа мне ўсё гэта прысніласяг?
Яна ўсё не ідзе...
Я гляджу на гадзіннік,
я гляджу на сонца,
я гляджу на зоры,
якія пачалі ўжо высыпаць
на небе...
Колькі гэта ўжо часу?
Колькі хвілін прайшло,
колькі гадзін,
колькі дзён,
колькі год?..
На мае плечы падае снег,
на мае плечы падае пух,
і я не ведаў — што рабіць
ад хвалявання, ад нечаканасці,
ад шчасця.
Можа гэта ўжо ўсё было?
Але чаму тады я ўсё чакаю яе?
Чаму я ўсё гляджу на гадзіннік...
Колькі часу?
Колькі дзён?
Колькі год?..
На мае плечы
падае снег,
падае пух,
падае пыл, падаюць зоры.
На мае скроні падае сівізна...
Мае згорбленыя ссутуленыя
плечы...
Мая сівізна...
Божа, як я не мог зразумець
раней!
Я ж настолькі змяніўся ад свайго
чакання,
што яна — яна ж усё такая, —
прайшла міма мяне
сваёй маладой,
сваёй лёгкай,
сваёй стройнай паходкай
і не пазнала мяне.
Як я не здагадаўся,
як я не зразумеў гэтага раней?
Відаць, я так быў заняты сваім
чаканнем...

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў народную артыстку СССР, актрысу Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Беларускай ССР імя М. Горкага Клімаву Аляксандру Іванаўну Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## І МАСТАКІ ТАКСАМА...

Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна рыхтуецца да свайго 50-годдзя. На кожным курсе, кожным факультэце можна ўбачыць сёння стэнды і выстаўкі, фотагазеты і альманахі, якія расказваюць аб гісторыі і сённяшнім дні універсітэта. Гэтай даце прысвяцілі сваю выстаўку і студэнты факультэта журналістыкі. Яна складаецца з двух раздзелаў. Першы—малюнкі і графіка студэнта III курса Валерыя Дранчука і студэнткі IV курса Наталлі Лось. Родны край, рамантыка юнацтва, каханне—вось галоўныя тэмы работ маладых мастакоў. Прыцягваюць увагу малюнкі Н. Лось, зробленыя чарнілам і тушшу, — «Накіды», «Усходнія матывы», «Пушкінская тэма», яе манатыпіі «Стары Мінск», «Дождж», пастэль «Мефістофель». Лепшыя работы В. Дранчука — «Родныя матывы», «Студэнцкі нацюрморт», «Студэнцкая бульба»...

Другі раздзел выстаўкі — мастацкія фатаграфіі. Пільнае вока будучых рэпарцёраў прыкмячае ўсё: і вясёлую вулічную сцэнку, і прыгажосць натруджаных працоўных рук, і слёзы ў вачах наведвальнікаў Хатыні. Многія з гэтых здымкаў ужо былі апублікаваны ў беларускім друку.

## У МАСКВУ — З ФІЛЬМАМІ

З 15 па 30 лістапада ў Маскве будзе праходзіць Першы ўсесаюзны фестываль аматарскіх фільмаў на сельскагаспадарчую тэму. Арганізатары — Міністэрства культуры СССР, Саюз кінематаграфістаў СССР, Прэзідыумы ЦК прафсаюзаў работнікаў культуры і работнікаў сельскай гаспадаркі. Беларусь будзе прадстаўлена на фестывалі кінастужкамі «Мая Гродзеншчына» (аўтар — выкладчык тэхнікума А. Ляховіч), «Конкурс механізатараў» (аўтар — супрацоўнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення Міжкалгасбуда Т. !Орэвіч), «Родны калгас» (аўтар — выкладчык школы М. Тодараў з Гомеля), «Сустрэча з роднымі мясцінамі» (аўтар — работнік Гомельскага Дома народнай творчасці В. Падаліца).

рэння Літоўска-Беларускай рэспублікі, якая разглядаецца як сродак пашырэння тэрыторыі БССР за кошт Літвы. Аказваецца, абураныя беларусы пратэставалі супраць «агрэсіі», бо не жадалі нібыта, каб беларускі нацыяналізм і Беларуская рэспубліка былі выкарыстаны як «сродак савецкай экспансіі». Большую недарэчнасць цяжка, як кажуць, і прыдумаць! Па волі Р. Пайпса З. Жылуновіч узначаліў аб'яднаную партыйную камуністычную арганізацыю Беларусі і Літвы, хоць у гэты час ён быў супрацоўнікам адной з украінскіх губернскіх газет.

Спатрэбілася б многа месца, каб паказаць усе скажэнні Р. Пайпсам гісторыі дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Як трапна заўважыў У. І. Ленін, «патрэбны каля 10 друкаваных старонак супраць 10 радкоў блытаніны». Гэта ленінская заўвага цалкам падыходзіць да гэтага выпадку. Але і прыведзеныя факты паказваюць поўную бездапаможнасць Р. Пайпса даць сваю колькі-небудзь зразумелую «канцэпцыю» гісторыі стварэння БССР. У раздзелах яго кнігі пра Беларусь няма нічога ад навукі. Ім уласцівы вульгарны схематызм, паглыблены няведаннем агульнавядомых фактаў з гісторыі абвяшчэння БССР.

### ПА ТОЙ САМАЙ СХЕМЕ

СЯРОД саветолагаў, якія лічаць сябе спецыялістамі па нацыянальным пытанні, аўтарытэтам карыстаецца і англічанін Е. Кар. На яго спасылаюцца як на аўтара «выдатнага пераказу бальшавіцкай дактрыны самавызначэння». Славутаму саветолагу дзякуюць за дапамогу, парады, указанні.

Падобна Р. Пайпсу Е. Кар увесь час спасылаецца на савецкую літаратуру і дакументы. Знешне здаецца, што ён і на самай справе імкнецца да аб'ектыўнай падачы матэрыялу. Але гэта толькі бачнасць. Сапраўды ж і ён насільна ўцісквае факты ў пракрустава ложа загадзя выпрацаванай «канцэпцыі». Гісторыя абвяшчэння БССР, якую даў Е. Кар у першым томе яго «Гісторыі Савецкай Расіі» (том называецца «Бальшавіцкая рэвалюцыя, 1917—1923»), сведчанне вельмі павярхоўнага і тэндэнцыйнага асвятлення гісторыі Беларускай ССР.

Е. Кар піша, што ўтвораная ў жніўні (дакладней у ліпені) 1917 г. буржуазная Беларуская рада (дакладней—Цэнтральная рада беларускіх арганізацый) была звергнута бальшавіцкім Ваенна-рэвалюцыйным камітэтам Заходняга фронту і вобласці ў канцы снежня 1917 г. Але гэта зусім не адпавядае рэчаіснасці. Рада ніколі не была дзяржаўным органам. Яна толькі прэтэндавала на дзяржаўную ўладу, спрабавала захапіць яе, звергнуць дыктатуру пралетарыяту, устаноўленую працоўнымі Беларусі і салдатамі Заходняга фронту пад кіраўніцтвам бальшавікоў. Правільна, што беларускія нацыяналісты спрабавалі капіраваць Украінскую раду, але поўнай аналогіі не было.

Скажона паказана гісторыя нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі ў 1919 годзе. Е. Кар піша, што ў 1919 г. планавалася стварыць федэрацыю паміж Літвой і Беларуссю. На самай справе ў канцы лютага 1919 г. узнікла адзіная Літоўска-Беларуская рэспубліка, якая праіснавала да ліпеня 1919 г. Можна прывесці і іншыя скажэнні.

Але галоўнае, бадай, не ў гэтым. Якія ж, на яго, англійскага гісторыка, думку, матывы стварэння БССР? Беларуская рэспубліка, паводле Е. Карэ, заснавана штучна па ўказцы зверху, а беларускія працоўныя нібыта не прымалі ўдзелу ў стварэнні сваёй нацыянальнай рэспублікі.

Далей у поўнай адпаведнасці з логікай сваіх разважанняў саветолаг робіць вывад аб тым, што БССР — выключна рэдкі, прынамсі, у Еўропе, прыклад таго, як прынцып нацыянальнага самавызначэння выкарыстоўваецца ў мэтах стымулявання нацыянальнай свядомасці зусім не для яго задавальнення. Беларусы атрымалі рэспубліку, не нарадзіўшыся як нацыя і не патрабуючы нацыянальнай дзяржаўнасці. Тая ж знаёмая ўжо думка аб штучнасці БССР.

Буржуазныя гісторыкі нацыянальную самасвядомасць звычайна мераюць ступенню міжнацыянальных трэнняў, барацьбой за самастойнае дзяржаўнае існаванне. Так заўсёды бывае пры капіталізме. Але да ўмоў сацыялізма гэтыя меркі ніяк не падыходзяць. Гісторыя нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Савецкай краіне ёсць гісторыя станаўлення і развіцця дзяржаўных форм у мэтах супрацоўніцтва і згуртавання раўнапраўных народаў, росквіту іх эканомікі і культуры.

(Працяг у наступным нумары).

# Пасля работы

Міхаіл МУСІЕНКА

АПАВЯДАННЕ

Рабочы дзень заканчваўся роўна ў шэсць. Гадзіннік над дзвярыма паказваў — пара. Ала паспешліва зачыніла дзверцы зграбнага пісьмовага століка, паклала ключ у сярэднюю шуфлядку — яна была пустая, — паглядзелася ў люстэрачка і, шчоўкнуўшы замком белай сумачкі, зірнула ў акно—ці ідзе дождж.

Сёння з рання хмурылася, і яна шкадавала, што не ўзяла балонні.

Было пагодліва, і Ала падумала, што паспее дабрацца дамоў у сваёй новай блакітнай сукенцы яшчэ да дажджу. Абнавіла яна свой убор некалькі дзён назад, калі прыходзіла наймацца сакратаром да начальніка будаўніцтва. На часовую работу. На лета. Праз тыдзень яна разам з начальнікам паедзе ў прыазоўскія стэпы. На аб'ект.

Сёння Ала працавала першы дзень.

Зачыніць акно ці пакінуць? Трэба зачыніць. Хто ж пакідае акно адчыненым у такім памяшканні на ўсю ноч?

Ала зачыніла акно і заглянула ў кабінет начальніка — развітацца.

— Да пабачэння, Міхаіл Данілавіч, — пачціва сказала Ала, кіўнуўшы на развітанне галавой.

Начальнік будаўніцтва стаяў плячыма да дзвярэй і не бачыў сваёй новай сакратаркі.

— Міхаіл Данілавіч, — нараспеў паклікала Ала.

Ён, не абарочваючыся, махнуў рукой.

— Я заняты,—нібы не сваім голасам сказаў ён.

Ала асцярожна прычыніла дзверы кабінета і спынілася, не ведаючы, што рабіць.

Можа, яму трэба нагадаць аб сканчэнні рабочага дня? Відаць, ён на рабоце не заўважае часу. Сярод мужчын бываюць такія працавітыя—забываюцца пра абед, вячэру, а потым паміраюць ад інфаркта міякарда.

«Мруць мужчыны, як мухі, — аднойчы сказала Аліна мама, прачытаўшы ў газеце чарговы некралог. — Акадэмік. Канструктар. Яму б яшчэ жыць гадкоў дваццаць. А ўсё жонкі, жонкі іх вінаватыя — не берагуць сваіх мужоў. Вось наш бацька гадоў да ста пражыве... У яго — рэжым. Сняданне, абед, вячэра—усё своечасова. Спіць ён, колькі патрэбна здароваму мужчыну,—восем гадзін, але не больш...»

А як вось гэтага зберажэш, калі ён сам сябе не беражэ?

«Я заняты». Дзівак.

Гадзіннік паказваў дзесяць на сёмую.

А што, калі зайсці і напаўжартам, напаўсур'ёзна сказаць:

— Міхаіл Данілавіч, наш гадзіннік ідзе дакладна. Я правярала. Ці не пара і нам з вамі дамоў? У сямейнае кола?

О, Ала ўмела абыходзіцца з мужчынамі, якім за сорак. З імі трэба быць гуллівай, простай, усмешлівай. І праз гэта карыстацца іх мужчынскай увагай.

Ці не таму ледзь не ўсе выкладчыкі факультэта закаханыя ў Алу? А прафесар батанікі, старэнькі Іпаліт Іпалітавіч, які нядаўна пагаліў непаслухмяныя сівыя вусікі, аднойчы спыніў Алу ва ўніверсітэцкім калідоры і сказаў:

— Павінен вам гэта...—прозвішча Алы ён пераблытаў, — заўважыць, што такой прывабнай... студэнткі, як вы, на нашым факультэце не было яшчэ. Гэта вельмі хараша, і... э-э.., прыемна... — Ала не зразумела, чаму прыемна.—Але дрэнна, што вы пачынаеце карыстацца сваёй знешнасцю сабе ў шкоду. За ваш адказ трэба было б паставіць вам чат... тры з мінусам. Так. А я паставіў вам пяць. Пяць! Так-с! Шосты дзень пакутую. Вось да чаго вы мяне давялі. Але запомніце,—прафесар падняў угору тоўсты, як сардэлька, палец, ускінуў сівую, астрыжаную пад бобрык галаву, гледзячы на Алу знізу ўверх,—знешнасць у наш час не бясцэнны капітал!..

—Як сказаць?—паціснула яна плячыма. І пачырванела. Слова не верабей, вылецела—не зловіш.

Прафесар хмыкнуў і адышоў.

Яна чамусьці ўспомніла аб гэтым перад тым, як зайшла ў кабінет, і, усміхаючыся на ўвесь белазубы рот, паклікала свайго шэфа:

— Міхаіл Данілавіч!

Начальнік гэты раз павярнуўся. Ну і твар у чалавека — шырокі, абцягнуты дубленай скурай. На ілбе, паміж чорнымі, крута выгнутымі бровамі, дзве глыбокія складкі. На левай скроні набухла жыла, вялікія вушы тырчаць—хочацца прыціснуць іх да галавы. Толькі вочы, круглыя, спакойныя, з чорнымі бураўчыкамі зрэнак, неяк адразу разлагоджвалі.

Ала разгубілася пад позіркам гэтых вачэй і перастала ўсміхацца.

— Зварыце мне чорную каву і дайце ёй астыць,—вялым голасам сказаў начальнік і зноў уткнуўся ў чарцёж.

Ала ведала, дзе пакой з электрычнай плітой—на гэтым паверсе ў канцы даўжэзнага калідора. А пацямнелая ад часу кафейніца ў яе ў шафе. Там жа і кава ў белым пакеціку.

— Я зараз,—з гатоўнасцю сказала Ала.

Дробна стукаючы абцасікамі тупаносых венскіх туфелек, Ала пабегла па калідоры, і не было каму спыніць позірк на элегантнай брунетцы—установа была бязлюдная.

Гарачы кафейнік Ала паставіла на круглы столік ў кутку кабінета побач з пустой попельніцай і пацямнелай шклянкай у медным падшклянку.

— Больш нічога не трэба? — запыталася Ала.

Начальнік падняў галаву, затрымаў позірк на сакратарцы:

— Я вас паклічу. Калі спатрэбіцеся.

З кабінета яна выйшла на дыбачках, бясшумна прычыніла дзверы і, сеўшы за стол, стала чакаць выкліку.

Пакліча ён пасля таго, як нап'ецца халоднай кавы, або да гэтага?.. Кава ў яго будзе стыць мінут сорак. А ўжо... сем гадзін.

Мама і тата чакаюць яе к сямі—дамовіліся ўсёй сям'ёй пайсці ў кафэ і адзначыць татаў дзень нараджэння. Мама асігнавала на гэта мерапрыемства дваццаць чатыры рублі—па паўрубля за кожны пражыты бацькам год. Дзівачка! Трэба пазваніць бацькам.

Да тэлефона падышла мама.

— Мы цябе чакаем, дачушка. Тата ўжо адзяваецца.

— Я на паўгадзінкі затрымаюся. У начальніка тэрміновая работа. Я буду яму патрэбна.

—Толькі не пазней. А палове восьмай чакаем цябе.

За дзвярыма кабінета пачуўся свіст. Птушыны не птушыны, але і не чалавечы. Яўна чулася мелодыя, у якой не адчувалася ні адзінай фальшывінкі.

Свісталі віртуозна, натхнёна!

Радыё, напэўна, уключана на поўную катушку.

Ці не спецыяльна застаўся начальнік, каб нацешыцца мастацкім свістам? Цікава. Ала прыслухалася. Прытанцоўваючы пад бадзёрую мелодыю, яна падышла да дзвярэй, прыадчыніла іх.

Тое, што ўбачыла Ала, проста ашаламіла яе. Начальнік, адкінуўшыся, сядзеў у крэсле, побач з пісьмовым сталом. Вочы ў яго былі заплюшчаны, губы выцягнуты трубачкай.

Зноў зазваніў тэлефон. Мама нервавалася. Даведаўшыся, што Ала яшчэ не выязджала, яна заахала ў трубку.

Ала прыглушаным голасам стала пераконваць маму, што пакуль начальнік у кабінеце, сакратарцы няёмка ісці. Неэтычна і нетактоўна. Раптам яму спатрэбіцца пазваніць па тэлефоне—хто злучыць?

Мама ўжо не ахала, а крычала ў трубку, патрабавала, каб Ала зараз жа адпрасілася.

Ой, як цяжка было растлумачыць маці, што Але не абыякава, якое першае ўражанне складзецца аб новай сакратарцы на рабоце, таму яна ні за што не будзе адпрошвацца. Хоць да раніцы праседзіць у прыёмнай.

Ала стамілася ад тэлефоннай размовы і мінуты дзве адпачывала, адкінуўшы галаву на спінку крэсла.

Свіст за дзвярыма не сціхаў. Пераважалі танцавальныя матывы.

Ала міжволі пачала прытупваць, седзячы. Потым ускочыла, зняла з ног туфелькі, каб не чуваць было тупату, закружылася па прыёмнай. Яна высока ўскідвала доўгія, пругкія ногі ў неверагодных па.

Гэта быў ліхі танцавальны экспромт, такі мог нарадзіцца толькі на самоце.

Ала ў знямозе прысела на крэсла. Аддыхалася. А свіст усё не аціхаў.

«Дзеля чаго ён свішча?—пачала ўжо злавацца Ала.—Пажылы мужчына, начальнік вялікай будоўлі раптам застаецца пасля работы, каб пасвістаць».

Ёй зноў успомніўся Іпаліт Іпалітавіч, які аднойчы павучаў студэнтаў: «Не праходзьце міма загадкі. І не шкадуйце намаганняў, каб разгадаць яе».

Можа тут якраз той выпадак, калі трэба разгадаць, што азначае гэты ідыёцкі свіст?

Радасць? Дык чаму ж ён так дзіўна радуецца? Сам-насам. У службовым кабінеце. Пасля работы.

Нервуецца? Дык чаму свіст у яго такі жыццярадасны, заразлівы.

Хвалюецца? Ала была ўпэўнена, што як бы чалавек ні хваляваўся, праяўлялася б гэта неяк па-іншаму, не так дзіўна.

Проста так свішча, машынальна, па прывычцы, уткнуўшыся ў чарцёж? Дык ён жа не салавей. Для чалавека гэта вельмі складанае — па выкананні — мастацтва, якое патрабуе вялікай засяроджанасці.

Вар'яцтва?..

Ала ўздрыганулася ці то ад гэтай думкі, ці то ад таго, што неяк непрывычна рэзка зазваніў тэлефон. Яна заціснула далонямі вушы, а калі адпусціла, тэлефон званіў, як звычайна, і Ала падняла трубку. Але там ужо яе паклалі.

Ала надзела туфелькі, нервова прайшлася па прыёмнай — крокаў не чутно было — і рашуча штурхнула дзверы кабінета. Яны расчыніліся. Ала ўвайшла. Стала ля парога, сур'ёзная і рашучая.

Начальнік перастаў свістаць, пайшоў сакратарцы насустрач.

— Мяне да тэлефона? — нецярпліва запытаўся ён.

Ала кінула позірк на круглы столік. Шклянка была сухая і чыстая.

— Гэта мне бацькі званілі,—адказала Ала.—Міхаіл Данілавіч, што з вамі? Вы нечым зас-

АДУСЮЛЬ І ПРА УСЁ

# ЭКСПАНУЕ ВОСЕНЬ

Восень прыйшла ў горад. Запаліла ў парках жоўтыя і чырвоныя вогнішчы дрэў, усміхнулася добрай усмешкай бабінага лета.

У гэтыя дні ў фае Палаца культуры прафсаюзаў воку адкрываліся трохі нечаканыя нацюрморты — залатыя горы яблыкаў і груш, цяжкія гронкі вінаграду, пірамі-ды грэцкіх арэхаў. Тут праходзіла першая выстаўка фруктаў і гароднiны, вырашчаных садаводамі-аматарамі. Хто пабыў на гэтай выстаўцы, напэўна, выходзіў з пачуццём радаснага здзіўлення. Не верылася, што гэтыя цудоўныя плады вырашчаны ў горадзе на тых некалькіх дрэўцах, якія гараджанін горда называе «садам». Самыя розныя гатункі груш, яблык, вінаграду, гародніны былі прадстаўлены на ёй. Арганізаваў выстаўку Мінскі клуб аматараў прыроды.

Глядзіш на гэты пахучы цуд і—дзіву даешся. Ці ведалі вы, напрыклад, што ў нас, у Мінску, могуць расці грэцкія арэхі? А вось у садавода-аматара Я. Янушэўскага —растуць! І арэхі на іх—буйныя, смачныя. Янушэўскі вырошчвае ў сваім садзе вінаград, чатыры гатункі рабіны, некалькі відаў груш. А якіх толькі яблык не прыслаў ён на выстаўку! Тут і ранет, і антонаўка, і «макентош» (дарэчы, гэты гатунак вырошчвае ў горадзе толькі ён), і уэлсі, і мінскі, і райка.

Вялікую колькасць смачных і прыгожых «экспанатаў» прадставіў на выстаўку Ул. Бязуглаў і іншыя садаводы Мінска. Яны не толькі паказалі сваю «прадукцыю» — фрукты, гародніну, розныя сокі, варэнне, віны, але і падзяліліся багатым вопытам іх «вытворчасці».

Прыняў удзел у выстаўцы і Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга навукова-даследчы інстытут пладаводства, гародніцтва і бульбы. 26 гатункаў фруктаў і гародніны, некаторыя з якіх не атрымалі яшчэ нават назвы, даў ён на выстаўку. Работнікі інстытута выступілі перад садаводамі з лекцыямі і кансультацыямі. Можа гэтыя кансультацыі дапамогуць членам клуба аматараў прыроды паказаць на наступных выстаўках новыя экспанаты? Хацелася б толькі, каб выстаўка наступнага года праходзіла не тры дні, а хоць бы з тыдзень, і каб яна мела хоць якую-небудзь рэкламу. Сёлета наведвальнікі траплялі сюды выпадкова. А колькі ж мінчан маглі б палюбавацца цудоўнымі дарамі залатой восені. Дык няхай жа прыйдуць яны сюды налета.

Б. ПЯРНО.

# МАЙСТРЫ СЕЛЬСКАГА ЭКРАНА

Стацыянар у вёсцы Лапічы — цэнтры калгаса «Бальшавік» — лепшы ў Асіповіцкім раёне. Механікам тут працуе ветэран Вялікай Айчыннай вайны Пётр Фёдаравіч Ляўкоўскі. Клапатліва даглядае ён апаратуру. Шматлікія ж яго актывісты ахвотна памагаюць і як след наладзіць рэкламу фільма, і запрасіць на сеанс тых гледачоў, хто не так часта прыходзіць у сельскі кінатэатр.

У штодзённых клопатах непрыкметна прайшлі-праляцелі дзесяць год работы ў Лапічах. Якія ж вынікі? Летась у год усенароднай Ленінскай працоўнай вахты Пётр Ляўкоўскі гадавое заданне выканаў за дзесяць месяцаў. Ударная праца сельскага кінафікатара адзначана Ленінскім юбілейным медалем. А сёлета датэрмінова выканаў план першага квартала па ўсіх паказчыках. Пётр Фёдаравіч—ударнік камуністычнай працы, выдатнік кінематаграфіі СССР.

На Магілёўшчыне працуе многа ініцыятыўных прапагандыстаў мастацкіх, дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. За актыўны ўдзел у выкананні восьмага пяцігадовага плана сельскія кінамеханікі Міхаіл Рыжыкаў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, Мікалай Дыбкін — ордэнам «Знак Пашаны», Валянціна Дайнека — медалем «За працоўную адзнаку».

Ініцыятар сацыялістычнага спаборніцтва ў вобласці — Чэрыкаўскі раён. Калектыў кінафікатараў гэтага раёна абавязаўся выканаць гадавы план да 5-га снежня. Сваё слова работнікі кінасеткі выконваюць (дырэктар галаўнога кінатэатра. Віктар Чэпікаў). Добра працуюць таксама калектывы кінафікатараў Кіраўскага, Магілёўскага, Касцюковіцкага, Круглянскага, Крычаўскага, Асіповіцкага, Слаўгарадскага, Хоцімскага раёнаў і горада Магілёва.

У вобласці ўжо 13 кінамеханікаў выканалі свае гадавыя планы. Гэта—Раіса Паварова, Аляксей Мацвеенка, Дзмітрый Гарбачоў, Ніна Фалецкая, Васіль Карнаван і іншыя. Іх пленная праца адзначана граматамі Упраўлення кінафікацыі і абкома прафсаюза работнікаў культуры.

Я. КАЛЯДА.

мучаны? — голас у Алы па-здрадніцку здрыгануўся.

— Засмучаны? Адкуль вы ўзялі? — са знарачытым здзіўленнем адказаў начальнік.

— Мне здалося.

Начальнік заціснуў паміж пальцамі правай рукі левае вуха, нервова патузаў яго, потым палез у кішэню даўно не гладжаных штаноў, дастаў адтуль скамечаную паперку і, павагаўшыся, падаў яе Але.

Яна прачытала радкі, напісаныя круглым жаночым почыркам:

«Міша, мне да смерці надакучыла задавальняцца тваімі скупымі пісьмамі з далёкіх будоўляў. А ездзіць усюды за табой у мяне няма ні прычыны, ні жадання. Стамілася. Я пакідаю цябе назаўсёды. Жадаю табе хутчэй суцешыцца. Ніна».

Перад Алай сядзеў малазнаёмы ёй чалавек, аб жыцці якога яна нічога не ведала. Кахае ён сваю жонку ці абыякавы да яе? Нечаканасць гэта для яго, ці ён чакаў гэтага? Засмучаны ён, ці — наадварот?

Не, па ўсім відаць, прыгнечаны, ашаломлены, выбіты з каляіны. Буйныя смуглыя рукі ў прыплюснутых барадаўках бязгучна выстуквалі на каленях нейкую мажорнчыну, твар разгублены і крышачку вінаваты. Глядзіць на яе, чакае, што яна скажа. Або, наадварот, глядзіць і не бачыць сваёй часовай сакратаркі? Дык навошта паказаў тады запіску? Каб пачуць словы суцяшэння? Або, каб не тлумачыць свайго ўчынку?

Ала наліла ў шклянку кавы; паставіла перад начальнікам — так ставяць лякарства.

Ён выпіў каву залпам, як п'юць ваду, прагаючы смагу.

Ала, павагаўшыся, яшчэ наліла, адпіла глыток. Кава была халодная, густая, чорная, без цукру. Гарката. Атрута.

Начальнік глядзеў не на Алу, а на шклянку. Вось-вось працягне па яе руку.

Ала, не гледзячы на начальніка, адставіла шклянку, што азначала: «Больш не дам».

— Вам трэба, Міхаіл Данілавіч, адпачыць крыху, — проста сказала Ала, закрываючы вечкам кафейнік. Такім тонам яна раніцаю раіць бацьку, што яму апранаць, каб адзенне адпавядала надвор'ю. Сказала, а сама падумала: «Праз тыдзень мы з ім паедзем на аб'ект. Вось і адпачне, пераменіць абстаноўку. Чым хутчэй, тым, напэўна, лепш для яго». — І зноў падумала: раптам яму ўздумаецца не праз тыдзень, а заўтра? А ў нас з Мікалаем праз тры дні заручыны тайком ад яго бацькоў.

Начальнік хітнуў галавой, уважліва паглядзеў на Алу. Ала не вытрымала позірку, апусціла вочы.

— Едзьце хоць заўтра, — сказала яна зусім не тое, што хацела. — Што тут рабіць у Маскве цэлы тыдзень?

Начальнік ляпнуў сябе па калене.

— Вы, бадай, маеце рацыю, — у голасе яго ўпершыню прагучалі жывыя інтанацыі. — Мне трэба адпачыць. Абавязкова.

Не ведала Ала Бялова з трэцяга курса біяфака, які цяжкі і наравісты чалавек, якому яна адважылася даваць парады. Колькі міністраў і забеспячэнцаў саюзнага значэння адчулі на сабе яго характар, напор, уладарнасць, колькі вялікіх і малых бліскуча завершаных будоўляў, раскіданых па ўсёй краіне, называліся чыжоўскімі—па прозвішчы іх начальніка.

Чыжоў і Ала выйшлі з упраўлення а дзесятай гадзіне.

Развітваючыся, ён моцна, па-мужчынску паціснуў ёй руку.

Ала, усміхаючыся, хітнула галавой:

— Гуд бай!

— А вы правільна сказалі, —не адпускаючы яе рукі, прамовіў Чыжоў: — Адпачыць! Цудоўна. Для мяне самы лепшы адпачынак — работа. Работа да сёмага поту! Вось так. Да заўтра.

На наступны дзень у шаснаццаць сорак службовым рэйсам яны вылецелі на будоўлю.

Пераклад з рускай
Міхася СТРАЛЬЦОВА.

# БУДНІ «ЎСМЕШКІ»

Народны агіттэатр «Усмешка» Дома культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя Куйбышава папоўніўся здольнай творчай моладдзю. Пасля конкурснага адбору ў тэатр-студыю прынята 25 маладых аматараў мастацтва. Студыйцы будуць вывучаць акцёрскае майстэрства, сцэнічную мову, прадугледжваюцца заняткі па фехтаванні, харэаграфіі і інш. Адначасова пачынаецца падрыхтоўка першага спектакля студыйцаў, прэм'ера якога адбудзецца ў снежні.

Вясёлы агляд тэатр-студыя прысвячае знамянальнай падзеі — 50-годдзю Савецкага Саюза. Арыгінальныя сцэнкі, рэпрызы, песні, танцы раскажуць пра гераічны паўвекавы шлях, які прайшла наша Радзіма ў сям'і вялікай, дружнай.

Год 1971 багаты на падзеі. Агіттэатр «Усмешка» многа і плённа канцэртуе. За дзевяць месяцаў адбылося 80 яго выступленняў. Надзвычай цікавыя былі летнія гастролі «Усмешкі». Агіттэатру апладзіравалі працоўныя Гродзеншчыны і Магілёўскай вобласці, Барысава, маракі Калінінграда, воіны групы Савецкіх войск у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Калектыў з поспехам выступіў у Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі, як удзельнік фестывалю «Вясновыя галасы». Са сваёй праграмай «Усмешка» пазнаёміла і гледачоў Беларускага тэлебачання. У Адэсе, дзе адпачывалі сёлета артысты агіттэатра, таксама адбылося некалькі іх выступленняў.

У лістападзе спаўняецца шэсць год работы агіттэатра. Набытым вопытам магіляўчане ахвотна дзеляцца. Сёлета тэатр прымаў удзел у абласных семінарах агітбрыгад у Гомелі і Мінску —паказваў сваю праграму. Артысты тэатра і яго мастацкі кіраўнік Уладзімір Бараноўскі расказвалі, як ствараюцца сцэнарыі для тэатра, як на сцэне ўвасабляецца задуманае, пра мастацкае і музычнае афармленне праграм.





У АПОШНІЯ ДНІ ВОСЕНІ...

Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

З пошты ЛіМа

# Іван ківае на Пятра

Восень. Меней работы на калгасных палетках, больш вольнага часу ў хлебаробаў. Можна і кнігу пачытаць, і лекцыю паслухаць, і на канцэрт завітаць. Але іншыя прыкметы наклала восень на жыццё Дзямянчыцкага сельскага клуба Камянецкага раёна. Павуціна бабінага лета добра апляла яго дзверы.

Зрэдку дзверы адчыняюцца. Але не ідуць сюды людзі. Бо які ж тут можа быць адпачынак? Падлога абвалілася, праламалася сцэна, брудна.

Думаеце, няма гаспадара? Ёсць. Нават шмат гаспадароў. Загадвае клубам Людміла Раманюк, бібліятэкарам тут працуе Аляксандра Семянюк. Хто павінен даць сродкі на рамонт? Загадчыку раённага аддзела культуры тав. Несцярэнку ясна хто — праўленне калгаса «Радзіма» і Ратайчыцкі сельсавет, непасрэдныя гаспадары клуба. Праўда, гаспадарацъ яны заўзята, з году ў год ківаюць адзін на аднаго. Як ў той прыказцы: Іван ківае на Пятра. Амаль побач з клубам, у гэтых жа Дзямянчыцах. звілі гняздо баптысты, а клуб бяздзейнічае. Дзіва дый годзе. Сектанты не спяць у шапку, а ў сельскім Савеце паціскаюць плячыма: «Што паробіш? Спрабавалі ваяваць з баптыстамі ідэалагічна — не пасабляе». А якая там ідэалагічная работа, калі пра работу клуба ніхто не дбае.

Ды хіба Дзямянчыцкі клуб адзін такі ў раёне? Чым лепшы ў калгасе імя Дзяржынскага Даўбізнянскі сельскі клуб? Нічым не лепшы. Хто ж сюды пойдзе, калі тут—што ў маразільніку. Ніхто не памятае, каб увосень ці ўзімку ў ім калі-небудзь печы палілі. І сёлета дроў ніхто не падвозіць. Холадна. Таму сталымі наведвальнікамі клуба тут ведаюць толькі загадчыцу яго ды бібліятэкара. Ды і то... Прыйдуць, як сонейка ў вокны прыгрэе.

Пойдзем далей... Зойдзем у Янушоўскі брыгадны клуб, што ў саўгасе «Белавежскі». І тут установа, як кажуць, дабіта да ручкі: шыбак у вокнах няма, кафлі з печы павыбіваныя, а смецця—ногі паламаеш.

Застаецца дадаць: тры гады назад раёну далі рэспубліканскую прэмію за ўзорнае ўтрыманне ачагоў культуры і развіццё мастацкай самадзейнасці. Што ж здарылася? Чаму ў Камянецкім раёне адбыліся такія перамены ў адносінах да ўстаноў культуры?

І. БАРКОЎ.

НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

# ТЭАТРАЛЬНЫ СПЕКТАКЛЬ ПРАЗ ТЭЛЕАКНО

Тэатр і тэлебачанне. Бадай, праблема іх узаемаадносін застаецца адкрытая з таго самага часу, калі гледачы ўпершыню атрымалі магчымасць убачыць на экране трансляцыю тэатральнага спектакля. «Уварванне» тэлевізійнай тэхнікі на тэатральныя падмосткі парушыла звыклую ўмоўнасць сцэнічнага дзеяння.

Існуе думка, што тэлебачанне можа толькі перадаць інфармацыю аб спектаклі, што яно не валодае здольнасцю мастацкага адлюстравання тэатральнага відовішча, не можа данесці да гледача цэласнасці творчай задумы. Што ж, некаторыя выдаткі пры трансляцыі тэатральнага спектакля па тэлебачанні, вядома, ёсць. Але не варта забываць аб тым, што тэлекамеры, набліжаючы гледача да сцэны, нібы размяшчаючы яго сярод дзейных асоб, адкрываюць новыя магчымасці ўспрыняцця спектакля.

Зразумела, гаворка тут ідзе аб такой тэлевізійнай трансляцыі, пры якой спектакль не механічна пераносіцца на экран. Толькі сур'ёзная папярэдняя работа тэлевізійнай брыгады і перш за ўсё тэлевізійнага рэжысёра дае магчымасць стварыць цікавую перадачу.

У гэтай абавязковай умове яшчэ раз пераконваешся, аналізуючы паказ тых спектакляў, якія трансліраваліся літаратурна - драматычнай рэдакцыяй Беларускага тэлебачання (галоўны рэдактар Р. Александровіч, галоўны рэжысёр В. Карпілаў).

Летнія месяцы для работнікаў гэтай рэдакцыі былі часам напружаным. У Мінску гастраліравалі тры вядомыя драматычныя калектывы: Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Я. Коласа, Ленінградскі дзяржаўны акадэмічны тэатр драмы імя А. С. Пушкіна і Тбіліскі дзяржаўны рускі тэатр імя А. С. Грыбаедава. Натуральным было імкненне рэдакцыі пазнаёміць тэлегледачоў Беларусі з іх творчасцю.

Знаёмства гэтае пачалося ў чэрвені трансляцыяй спектакляў Беларускага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. Тэлегледачы ўбачылі тры спектаклі коласаўцаў: М. Шатрова «Шостае ліпеня», В. Яжова «Салаўіная ноч», Л. Талстога «Улада цемры». Адчувалася, што тэлевізійны калектыў (рэдактар М. Гарэцкая, рэжысёры Н. Арцімовіч, В. Акімушкін і іншыя) нямала зрабіў для таго, каб гэтыя спектаклі прагучалі па тэлебачанні з поўнай сілай.

Вялікую цікавасць у тэлегледачоў выклікала трансляцыя спектакля ленінградцаў па п'есе Л. Шэйніна «Цяжкае абвінавачванне», дзе адну з галоўных роляў выконваў В. Мяркур'еў. Такое ж вялікае ўражанне засталося і ад спектакля па п'есе Дж. Прыстлі «Скандальнае здарэнне з містэрам Кэтлам і місіс Мун», у якім выступіў цудоўны дуэт — І. Гарбачоў і Н. Ургант.

На гэтым спектаклі хочацца спыніцца асобна. Улічваючы невялікі склад выканаўцаў і тую акалічнасць, што дзеянне адбываецца на адной пляцоўцы, было вырашана перадаць гэты спектакль са студыі.

Зразумела, перанясенне спектакля, прызначанага для паказу на вялікай тэатральнай сцэне, у студыйныя ўмовы патрабавала велізарнай работы тэлевізійнага калектыву і перш за ўсё рэжысёра Б. Берцінга. Вызначэнне мізансцэн і ў сувязі з гэтым дакладная раскадроўка спектакля дазволіла па ходзе перадачы ажыццяўляць цэласны яго мантаж у эфіры.

Пакуль падобныя знаходкі не такія частыя, як хацелася б. Як прыкры промах успрымалася, напрыклад, перадача спектакля па п'есе Л. Малюгіна «Жыццё Сент-Экзюперы». Па сваім жанры гэтая п'еса — своеасаблівая паэтычная кампазіцыя, створаная па дакументальным матэрыяле — аўтабіяграфічных кнігах Сент-Экзюперы «Начны палёт» і «Зямля людзей». Так паэтычна п'еса і была пастаўлена ленінградцамі. Немалаважная роля ў афармленні адводзілася тэатральнаму асвятленню. Змена светлавых эфектаў падкрэслівала душэўны стан героя п'есы.

Натуральна, на чорнабелым экране тэлевізара прапала паэтычная гама розных падсветак. Стӓралася ўражанне, быццам дзеянне спектакля адбываецца ў пастаяннай паўцемры, а кавалкі ўмоўных дэкарацый, якія вылучаліся буйнымі планамі, былі незразумелыя гледачу.

Толькі ў такіх перадачах, дзе прызначэнне тэлевізійнага рэжысёра не абмяжоўваецца фармальным уключэннем тэлекамер у эфір, а ўключае нешта большае — уласнае бачанне п'есы, мастацкую інтэрпрэтацыю тэатральнага відовішча,—і ляжыць адно з вырашэнняў праблемы «тэатр—тэлебачанне».

Н. ФРАЛЬЦОВА.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

## Івану МУРАВЕЙКУ — 50 гадоў



21 кастрычніка споўнілася 50 год беларускаму паэту Івану Муравейку. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне:

«Дарагі Іван Андрэевіч!

З нагоды Вашага 50-годдзя прыміце ад нас, сваіх сяброў па пяры, шчырае сардэчнае віншаванне.

Пасля заканчэння сярэдняй школы Вы вучыліся ў Мінскім Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава. Потым—служба ў радах Савецкай Арміі. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны знаходзіліся на фронце, дзе выраслі ад радавога да камсорга палка, а пасля да карэспандэнта-арганізатара армейскай газеты.

Пасля вайны Вы шчыра і аддана працуеце ў рэдакцыі Любанскай раённай газеты, шмат увагі аддаяце выхаванню літаратурнай моладзі.

З першай кнігі-зборніка «Песня над палямі», што выйшаў у 1955 годзе, упэўнена загучаў Ваш паэтычны голас. Свой літаратурны талент Вы прысвяцілі дзецям і напісалі для іх шэраг цікавых кніг: «Ручаінкі», «Вось якія мы», «Пра работу і ляноту», «Дружная сямейка», «Сняжынкі-смяшынкі», «Сем колераў вясёлкі».

Мы рады, што Вы палюбілі сваю родную Любань, жывяце сярод сваіх герояў і чытачоў, пяром журналіста і паэта адлюстроўваеце будні іх жыцця.

Жадаем Вам, дарагі Іван Андрэевіч, добрых поспехаў у працы, новых кніг, моцнага здароўя, шчасця».

Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» з прыемнасцю далучаецца да гэтага віншавання і прапануе чытачам новыя вершы паэта.

Іван МУРАВЕЙКА

## АСЕННІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

Падае, падае лісце, як птушкі падстрэленыя.
Даўно пабурэлі парканы, на лета пабеленыя.
Вецер рабіну, што шоўкам пунсовым палае,
Да абеліска, як сцяг палкавы, нахіляе.

●

А дождж ідзе, а дождж усё ідзе.
Люблю густы, абложны дождж асенні.
Таму, напэўна, што у гэткі дзень
Казаў калісь: «Бамбіць не будуць сёння».

●

Марозік ноччу замарозіў лужыны.
Лядок пад коламі трашчыць, як шкло.
А недзе ўжо даўным-даўно засцюжыла
І ўсе дарогі снегам замяло.

●

Рака — перанасычаны раствор
Дажджоў халодных, тумаоў, вятроў.
І чараты пажоўклыя шапочуць,
Яны і мёртвыя маўчаць не хочуць.

●

Восень прадзе павуцінкі-нітачкі,
Як выпадзе сонечны дзень калі.
Снежань палотны з іх белыя вытча,
Рассцеле па ўсёй зямлі.

●

Курлы-курлы...
І цішыня кругом.
Гляджу увысь і так выразна бачу:
Стаіць хлапчук з мурзатым букваром,
Глядзіць увысь і горка-горка плача.

АРХІТЭКТУРА

# КРАСУЙ, МАЯ СТАЛІЦА!

Я. ЗАСЛАЎСКІ, кандыдат архітэктуры, намеснік галоўнага архітэктара г. Мінска

## 4. ЗЯЛЁНЫЯ КАРАЛІ МІНСКА

Зараз у Мінску 9 паркаў, вялікі батанічны сад, больш 130 сквераў і бульвараў. У межах горада размешчаны лясы агульнай плошчай больш 400 га. На аднаго жыхара Мінска цяпер прыпадае каля 12 кв. метраў зялёных плошчаў замест 2,5 кв. метра ў 1940 годзе. У адпаведнасці з пасляваеннымі генеральнымі планамі ўздоўж Свіслачы фарміруецца воднаэялёны дыяметр з цэлай сістэмай паркаў. Да гэтага часу ўжо створаны і ствараюцца паркі імя М. Горкага, Янкі Купалы, імя Марата Казея, ля опернага тэатра, Перамогі. Пазней будуць створаны паркі ў раёне Серабранкі і Чыжоўкі. Генеральны план прадугледжвае паркі ў кожным планіровачным (адміністрацыйным) раёне, у кожным жылым раёне, сады ў мікрараёнах і азелянёныя пляцоўкі ў жылых групах.

І ўсё ж, нягледзячы на бясспрэчныя поспехі ў азеляненні горада, яно адстае ад тэмпаў і маштабаў жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва.

Значны недахоп існуючай сістэмы азелянення — тое, што дагэтуль няма паркаў у новых буйных жылых раёнах—Чыжоўцы, Зялёным Лузе, раёне вуліцы імя Прытыцкага і іншых, хоць у праектах яны і прадугледжаны. Практычна да гэтага часу Мінск яшчэ не мае і Цэнтральнага парку культуры і адпачынку, які адпавядаў бы сталічнаму значэнню Мінска. Пачатыя амаль 20 гадоў назад работы на тэрыторыі парку Перамогі вяліся марудна і недастаткова паслядоўна.

Генеральным планам перспектыўнага развіцця Мінска і планам работ на бліжэйшую пяцігодку прадугледжана павялічыць плошчу зялёных пасадак агульнага карыстання да 2 400 га і адпаведна норму на 1 чалавека—да 20,7 кв. метра.

У гэтай пяцігодцы будзе створаны парк імя 900-годдзя Мінска ў раёне Чыжоўкі (першая чарга), парк па вуліцы Севастопальскай у Зялёным Лузе.

Горад расце. І гэта ўсё больш аддаляе яго жыхароў ад прыроднага асяроддзя. Выправіць такое становішча павінны мы, архітэктары. Зрабіць гэта можна больш смела ўводзячы ў горад прыродныя ландшафты і спалучаючы іх з малымі архітэктурнымі формамі, інжынернымі збудаваннямі.

Разнастайнасць прыродных ландшафтаў, зялёных кампазіцый, спалучэнне адкрытых і закрытых зялёных прастораў з забудовай—усё гэта адпавядае патрабаванням здаровага і эстэтычна выразнага асяроддзя, садзейнічае наданню гарадскому ландшафту Мінска своеасаблівасці.

Не менш важна пераўтварыць ландшафт у тых раёнах, дзе прыродныя ўмовы неспрыяльныя. Класічны прыклад у гэтым сэнсе — цэнтр Мінска.

Стварэнне штучнага вадаёму, арганізацыя парку імя Янкі Купалы з пасадкай дарослых дрэў дазволілі за кароткі час дасягнуць вялікага эфекту.

Выкарыстоўваючы гэты вопыт, за апошнія гады распрацаваны новыя прапановы па абвадненні горада, арганізацыі вадаёмаў. Гэтыя прапановы былі ўлічаны ў спецыяльным праекце абвадненне горада, распрацаваным Мінскпраектам у сувязі з будаўніцтвам Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Уздоўж Свіслачы з'явяцца новыя водныя люстры. Адно з іх ужо створана ля Паркавай магістралі, насупраць завода халадзільнікаў.

Аднак вельмі цікавыя праектныя прапановы, якія прадугледжваюць стварэнне ўнутранага гарадскога воднага кальца (у напрамку ручая Слепянка—з усходу і з развіццём Лошыцкай сістэмы —з захаду) у будучай пяцігодцы, відаць, не ўдасца ажыццявіць з-за абмежаваных водных рэсурсаў Вілейска- Мінскай сістэмы. Разам з тым гэтыя прапановы захоўваюць сваё значэнне для наступнага этапу абваднення, калі з'явяцца больш буйныя водакрыніцы на базе такіх рэк, як Бярэзіна і інш.

Сетка ўстаноў для загараднага адпачынку мінчан пасля вайны была створана практычна нанава. Асабліва актыўна яна развіваецца ў апошняе дзесяцігоддзе. Цяпер у розных месцах прыгараднай зоны працуюць каля 60 піянерскіх лагераў, многа дач, гарадскіх дзіцячых садоў-ясляў, некалькі дамоў адпачынку і прафілакторыяў, больш 10 турысцкіх і спартыўных баз, кемпінг-матэль і г. д.

Для актыўнага развіцця ўстаноў загараднага адпачынку мінчан вялікае значэнне мела стварэнне Заслаўскага вадасховішча.

Летась Савет Міністраў БССР зацвердзіў праект планіроўкі Заслаўскага вадасховішча і намеціў рад мерапрыемстваў, каб добраўпарадкаваць гэтую зону. Літаральна на вачах пераўтвараецца паўночна-заходняя частка вадасховішча. Насыпаны новыя пляжы, пракладзена дарога да гасцініцы «Юнацтва», уздоўж якой таксама добраўпарадкоўваецца ўзбярэжная зона.

Праект прадугледжвае будаўніцтва на Мінскім моры веславальнага канала ў 2 200 метраў і шырынёй да 150 метраў, яхт-клуба, спартыўнага комплексу са стадыёнам і рознымі іншымі пляцоўкамі, веславальнай станцыяй, а таксама спартыўныя гарадкі і базы.

Практычна гэта зона зліваецца з паркам Перамогі і ўтварае адзіную зону, у якой змогуць аднначасова адпачываць прыкладна 180—200 тысяч чалавек.

Вельмі важна, што пытанні добраўпарадкавання зоны сканцэнтраваны ў новай спецыяльнай гаспадарча-разліковай арганізацыі, падначаленай гарвыканкому.

Вялікае значэнне мае арганізацыя вадасховішча на рэках Пціч і Вяча. Выкананы праекты планіроўкі гэтых зон.

Але попыт на месцы загараднага адпачынку яшчэ перавышае магчымасці яго задавальнення. Пра гэта сведчыць перапаўненне пляжаў летам. Яшчэ больш складана з арганізацыяй загараднага адпачынку зімой, таму што большасць устаноў не разлічаны на зімовую эксплуатацыю (апрача дамоў адпачынку, прафілакторыяў).

У дзевятай пяцігодцы значна павялічыцца колькасць прафілакторыяў. Калі раней іх будавалі на дзяржаўныя сродкі, дык цяпер, пры новай форме матэрыяльнага стымулявання, многія прадпрыемствы могуць узводзіць прафілакторыі за кошт сваіх фондаў. Гэта выклікала вялікі паток заявак. Для правільнага іх размяшчэння Мінскпраект распрацаваў планіровачную схему размяшчэння прафілакторыяў у прыгараднай зоне. Схема ўжо зацверджана Мінскім гарвыканкомам. Прадугледжваецца арганізацыя прафілакторыяў для куста прадпрыемстваў. Такое ўзбуйненне патрэбна для рэнтабельнасці работ, магчымасці інжынернага абсталявання і рашэння горадабудаўнічых задач.

У аснову размяшчэння прафілакторыяў пакладзены два прынцыпы: галіновы і блізкасці да прадпрыемстваў.

Першы прынцып абумоўлівае магчымасць рэальнай кааперацыі сродкаў асобных прадпрыемстваў, другі садзейнічае эканоміі часу на транспартныя пераезды.

У ваколіцах Мінска прывабны і своеасаблівы прыродны ландшафт. Мяккі рэльеф, спрыяльны клімат, вялікія масівы лясоў, якія чаргуюцца з адкрытымі прасторамі палёў, што перасякаюцца невялікімі рэкамі,—усё гэта вельмі спрыяльнае асяроддзе для развіцця адпачынку.

Значная роля ў развіцці ўсёй сістэмы загараднага адпачынку адводзіцца лесапаркаваму поясу сталіцы. Таму асабліва востра стаіць пытанне аб ахове зялёнага фонду, яго пашырэнні і раўнамернасці ў размяшчэнні лясоў вакол Мінска. Рашэнню гэтай задачы будзе садзейнічаць перадача гэтых лясоў у веданне гарвыканкома.

Асноўныя прыгарадныя лясы размешчаны на поўнач і ўсход ад горада, іх вельмі мала ў заходніх і паўднёвых ваколіцах. Таму праблема фарміравання зялёнага пояса з дапамогай лясных насаджэнняў, стварэння лесапаркаў на базе існуючых лясоў—вельмі актуальная. Пэўную ролю ў фарміраванні зялёнага пояса вакол горада могуць выканаць водаахоўныя і іншыя зялёныя масівы, якія ствараюцца ў бязлеснай частцы. Яны замкнуць лесапаркавы пояс.

У перыферыйных раёнах прыгараднай зоны—у аддаленні на 40—50 км ад горада—на базе існуючых лясоў і водных рэсурсаў малых рэк— Ісламы, Гайны, Усяжы, Дзвіносы—можа быць створана другое кальцо загарадных зон масавага адпачынку, якое мэтазгодна спецыялізаваць не толькі для кароткачасовага, але і працяглага адпачынку, арганізацыі турызму.

Такім чынам, патэнцыяльныя магчымасці прыродных рэсурсаў прыгараднай зоны і лесапаркавага пояса могуць цалкам задавальняць.

Нарэшце, вялікае значэнне мае зона азёр Нарачанскай групы. Гэты раён выключна спрыяльны. Цяпер тут ёсць піянерскія лагеры, турбаза, санаторый. Нягледзячы на значную адлегласць, гэта зона ўсё больш вабіць мінчан. Азёры, несумненна, стануць не толькі зонай працяглага, але і масавага кароткачасовага адпачынку.

Генеральная схема развіцця зон адпачынку цяпер удакладняецца Мінскпраектам у сувязі з карэктурай генеральнага плана.

Зялёнае будаўніцтва — вялікае мастацтва. На жаль, прафесіянальны ўзровень работнікаў, звязаных з праектаваннем і ажыццяўленнем зялёнага будаўніцтва, яшчэ недастаткова высокі.

У сувязі з адкрыццём у політэхнічным інстытуце архітэктурнага факультэта было б пажадана пачаць падрыхтоўку архітэктараў-ландшафтнікаў. Пытанне гэта не новае, але пакуль не вырашанае. Мне здаецца, Дзяржбуд БССР і Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі маглі б вырашыць яго хоць бы шляхам спецыялізацыі групы студэнтаў на апошніх двух курсах з выкарыстаннем гэтых маладых спецыялістаў пасля заканчэння інстытута толькі ў галіне ландшафтнай архітэктуры.

Вельмі важна павысіць прафесійную падрыхтоўку асоб, якія кіруюць гэтымі работамі і кантралююць іх. Тут, праўда, ёсць аб'ектыўныя цяжкасці: заработная плата гэтых работнікаў не дазваляе ўкамплектаваць апарат спецыялістамі патрэбнай кваліфікацыі (дарэчы, гэтыя цяжкасці перажывае і Упраўленне па справах будаўніцтва і архітэктуры). У выніку пры нібыта эканоміі па заработнай плаце аб'ектыўна наносяцца значна большыя страты за кошт зніжэння якасці добраўпарадкавання і азелянення.

Недастаткова высокі ўзровень работ па азеляненні і добраўпарадкаванні залежыць, канечне, ад будаўнічых арганізацый. Азеляненню будаўнікі пакуль што не ўдзяляюць належнай увагі.

Будаўнічыя арганізацыі таксама павінны мець у сябе спецыялістаў-ландшафтнікаў, якія непасрэдна кіравалі б работамі.

У святле першачарговых і перспектыўных задач азелянення, развіцця зон адпачынку павінна быць умацавана і матэрыяльна-тэхнічная база арганізацый, якія вядуць гэтыя работы ў горадзе.

Артыкулы першы, другі, трэці гл. у нумарах ад 17 верасня, 24 верасня і 8 кастрычніка г. г.

# *ГРАЦЫІ ЕЎРОПЫ...*



**Два дні** камеры Еўрабачання і Інтэрбачання, кінакамеры хронікі ГДР, аб'ектывы фотарэпарцёраў з Польшчы і Фінляндыі, Францыі і Югаславіі былі накіраваны на памост Мінскага палаца спорту, упрыгожаны беларускім нацыянальным арнаментам. Два дні сталіца Беларусі была еўрапейскай сталіцай жаночай гімнастыкі. Спартсменкі 21 краіны падарылі мінчанам сваё майстэрства.

На здымках, зробленых фотакарэспандэнтам У. Мяжэвічам, — гераіні чэмпіянату Еўропы. Задумалася аб нечым, гледзячы на выступленні сяброўак-суперніц, наша зямлячка Тамара Лазаковіч. Можа яна марыць вярнуцца ў родны Віцебск чэмпіёнкай! «Натхненне» — так хацелася б назваць другі здымак, на якім савецкая спартсменка Людміла Турышчава выконвае практыкаванні на бервяне. А вось на гэтым жа снарадзе— абаяльная Эрыка Цухальд з ГДР. Яе твар — сама ўвага: кожная памылка можа каштаваць медалю.

І вось — шчаслівая хвіліна: на п'едэстале гонару залатыя медалісткі Мінскага чэмпіянату Людміла Турышчава і Тамара Лазаковіч (СССР) і бронзавы прызёр Эрыка Цухальд (ГДР). На іх тварах — радасць перамогі. Спартсменкі падарылі радасць і нам — радасць сустрэчы з мастацтвам. Мастацтвам спорту...





# А КЕРАМІКА Ў НАС УЖО ЁСЦЬ!..

Нядаўна ў Вільнюсе закончыўся міжнародны сімпозіум «Нацыянальныя традыцыі ў сучаснай кераміцы». Праграмай сімпозіума была прадугледжана работа ў майстэрнях. У творчым спаборніцтве прынялі ўдзел каля трыццаці майстроў-спецыялістаў з усіх рэспублік нашай краіны. Былі запрошаны майстры з Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам, Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, Кубы, Манголіі, Румыніі, Польшчы, Чэхаславакіі. Удзельнікі семінара абмяняліся творчым вопытам, заслухалі даклады, выступленні вядучых мастакоў і мастацтвазнаўцаў па праблемах далейшага развіцця мастацкай керамікі.

У гэтай творчай сустрэчы, якая ўпершыню праводзіцца ў нашай краіне, прыняў удзел і беларускі мастак Тарас Паражняк, які быў удастоены дыплома сімпозіума.

У гэтых ж час у Вільнюскім палацы мастацкіх выставак была адкрыта Усесаюзная выстаўка «Кераміка СССР». Экспанавалася каля 1 500 работ. Выстаўка дазволіла прасачыць тэндэнцыі ў развіцці сучаснага керамічнага мастацтва, нацыянальныя асаблівасці керамікі братніх рэспублік.

Прыкметнае месца ў экспазіцыі выстаўкі займалі работы беларускіх керамістаў і вырабы майстроў народнага мастацтва.

Безумоўна, на такой вялікай выстаўцы кожная рэспубліка магла паказаць не многа, аднак гэта нямногае павінна было прадставіць усё самае лепшае, самае яркае з таго, што створана за апошнія гады.

Нас радуе, што ва Усесаюзным аглядзе, якім з'яўлялася выстаўка «Кераміка СССР», упершыню такой вялікай групай выступілі нашы мастакі. У каталогу выстаўкі побач з імёнамі мастакоў старэйшага пакалення, заснавальнікамі мастацкай керамікі ў Беларусі, арганізатарамі керамічнай вытворчасці, педагогамі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута імёны і маладых мастакоў, якія нядаўна закончылі аддзяленне мастацкай керамікі нашага інстытута.

І ўсё ж стэнды, на якіх была прадстаўлена наша беларуская кераміка, нас радавалі не зусім. Яны былі вельмі бедныя ў параўнанні з суседнімі—Украіны, Малдавіі, прыбалтыйскіх рэспублік. Гэту беднасць мы адчулі асабліва востра яшчэ і таму, што ведалі нашы магчымасці, памяталі пра тое лепшае, што створана за апошнія гады, што бачылі на нашых выстаўках, у майстэрнях мастакоў-керамістаў. Чамусьці не былі паказаны алегарычныя творы, выкананыя ў шамоце Міхаілам Бяляевым, дэкаратыўныя вазы Генадзя Гаркунова, тэматычныя творы Тараса Паражняка і Фёдара Зільберта, дробная пластыка Мікалая Пушкара і г. д. Чамусьці з мастакоў, якія працуюць у фарфоры, прыняў удзел у выстаўцы толькі адзін Валерый Леантовіч. Работы яго былі сустрэты з цікавасцю. Аднак, на нашу думку, было б нядрэнна паказаць і вялікія дэкаратыўныя вазы Валянціна Кірыленкі, сервізы Леаніда Багданава.

Секцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Саюза мастакоў аб падрыхтоўцы выстаўкі ведала даўно, аднак належна не падрыхтавалася. Усё ішло неяк само па сабе. Цяжка меркаваць аб прычынах, але чамусьці і майстры народнага мастацтва былі выпушчаны з поля зроку складальнікаў беларускай экспазіцыі.

Наперадзе новыя выстаўкі. Хацелася б, каб бюро актывізавала дзейнасць секцыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Відаць, карысна было б запазычыць метады работы, адносіны да вырашэння творчых задач, іх пастаноўкі ў нашых суседзяў — Саюзаў мастакоў рэспублік Прыбалтыкі, Украіны. Рыхтуючыся да выстаўкі «Кераміка СССР», яны нікога не забылі, паказалі самае лепшае, самае арыгінальнае. Іх шматлікія стэнды не былі пустыя.

**Р. ВАЛАДЗЬКО.**

# ПАМЯЦІ ДРУГА

Памерла Іна Міхайлаўна Мухіна—камуніст, журналіст, проста чалавек, парывісты, чулы, заўсёды добры і шчыры.

Як карэспандэнт Агенцтва друку Навіны, наша Іна была ўдзельнікам вялікай ідэалагічнай бітвы за сэрцы і розумы мільёнаў людзей і разам з усімі несла вялікую праўду пра Савецкую краіну людзям усяго свету. Сведчанне гэтаму— сотні публікацый яе работ у зарубежных выданнях.

«Дынамічная Мухіна»—так называлі мы яе ў сваім журналісцкім асяроддзі. Так, яна была дынамічная ў самым лепшым сэнсе гэтага слова. Яна заўсёды была гатова р а з в е д а ц ь і н а п і с а ц ь. Іншы раз гэта была проста кароценькая інфармацыя, іншы раз — вялікі артыкул. Яна біла нашых ідэйных праціўнікаў самай страшнай для іх зброяй— фактамі, здабытымі ў акіяне жыцця.

Чалавек з безнадзейна хворым сэрцам (яна ведала гэтую цяжкую праўду), Іна ўсё ж працягвала—не пабаімся гучнага слова—змагацца.

Сэрца адмовіла ў час канцэрта італьянскага спевака Бруна Вентурыні, пра які яна павінна была расказаць чытачам яго краіны. Іне было ўсяго 46. Ёй хацелася напісаць і расказаць так многа. Яна была поўная планаў, мар, задум.

Успомнім жа яе добрым словам усе мы—таварышы па рабоце, сябры і тыя, да каго яна «стукалася ў дзверы» ў якасці няўрымслівага карэспандэнта АДН.

**Група таварышаў.**

**Канцэртамі** ў Беларусі завяршае вялікую гастрольную паездку Ульянаўскі дзяржаўны сімфанічны аркестр. Гэта зусім малады калектыў. Першая рэпетыцыя адбылася ўсяго тры гады назад. У складзе аркестра 81 музыкант, старэйшаму з іх крыху за трыццаць. Нездарма аркестр з радзімы Ільіча называюць самым маладым—сярэдні ўзрост музыкантаў 26 гадоў. У яго ўліліся выпускнікі Маскоўскай, Ленінградскай, Горкаўскай і Саратаўскай кансерваторый. Галоўны дырыжор Ульянаўскага сімфанічнага Эдуард Сяроў працуе ў ім з дня яго заснавання і лічыць, што аркестр павінен у бліжэйшы час стаць адным з лепшых у краіне Радзіма Леніна будзе мець калектыў, дастойны прадстаўляць яе ў любых гарадах і краінах.

Гэта першая вялікая гастрольная паездка аркестра. Ён пабываў у Маскве, Ленінградзе, Рызе, Вільнюсе, Каўнасе, Выбаргу і многіх іншых гарадах. Цяпер можна ўпэўнена сказаць пра аркестр, як пра добры калектыў, якому пад сілу складаныя разнастайныя праграмы.

За тры гады сыграны асноўны «залаты фонд» класічнай рускай, савецкай і зарубежнай сімфанічнай музыкі. З аркестрам выступалі многія айчынныя выканаўцы і з-за рубяжа. Сярод іх — дырыжоры Б. Хайкін, Ю. Арановіч, Р. Баршай, М. Шастаковіч, А. Кер'ес (Нідэрланды), Д. Петкаў (Балгарыя), дырыжоры з Аўстрыі, АРЕ, Кубы, ГДР, піяністы Я. Фліер, Е. Магілеўскі, Д. Ліл (Вялікабрытанія), С. Коста (Партугалія), Б. Фоавіні з Францыі, скрыпачы, віяланчэлісты і вакалісты— А. Крыса, С. Сніткоўскі, В. Яблонская, І. Архіпава, М. Вайман, Ш. Руха (Румынія), Ё. Сато (Японія) і многія іншыя. Творчыя сувязі шырацца, прафесійнае майстэрства расце. З моманту заснавання аркестр пазналі і палюбілі 150 тысяч слухачоў.

*ГОСЦІ МІНСКА*

## НОВЫЯ РУБЯЖЫ, НОВЫЯ ЗАДАЧЫ...

У Мінску і вобласці ў пяці канцэртах прагучаць дзве вялікія складаныя праграмы і папулярная музыка. Будуць выкананы: Другая сімфонія С. Рахманінава, Шостая—С. Пракоф'ева, скрыпічны канцэрт П. Чайкоўскага (саліст — лаўрэат міжнародных конкурсаў Г. Крэмер), фартэпіянны канцэрт С. Рахманінава выканае Е. Магілеўскі. На выездзе ў Маладзечна аркестр сыграе сюіту А. Хачатурана з балета «Спартак», вальсы І. Штрауса і многія іншыя папулярныя сімфанічныя творы. Дырыжорамі на гэтых канцэртах выступяць Э. Сяроў і А. Аляксееў.

Перспектывы далейшай работы калектыву шырокія і заманлівыя. Дарог многа. Галоўны дырыжор аркестра, лаўрэат конкурсу імя Г. Караяна ў Заходнім Берліне Эдуард Сяроў ставіць асноўнай задачай вяртанне да ўжо выкананых твораў, больш глыбокай і тонкай іх інтэрпрэтацыі. На яго думку, няма межаў сапраўднай творчасці, кожны дасягнуты рубеж ставіць усё новыя задачы.

**Д. ПЯТРОЎ.**

## ЛЕКТАР — МІКАЛАЙ КРУЧКОЎ

У народных універсітэтах пры гарадскіх і раённых дамах культуры пачаўся новы навучальны год.

Першыя заняткі на факультэце кінамастацтва універсітэта пры Маладзечанскім доме культуры чыгуначнікаў не пакінулі абыякавымі ніводнага слухача. Лектарам тут выступіў народны артыст СССР Мікалай Кручкоў.

Мяркуючы па планах дома культуры, заняткі універсітэта будуць цікавыя. На сёлетні навучальны год запланаваны такія тэмы, як «Кіно і моладзь», «Антыфашысцкая тэма ў фільмах студыі ДЭФА (ГДР)», «Барацьба ідэй у сучасным кінамастацтве», «Ад камедыі гумарыстычнай да сатырычнай», «Майстры зарубежнага кіно», а таксама сустрэчы з майстрамі савецкага кіно.

# З ГЭТЫМ ТРЭБА НАРАДЗІЦЦА...

ПЕРШАЕ знаёмства наша адбылося ў тэатральнай студыі Палаца прафсаюзаў. Нам чыталі лекцыі па гісторыі тэатра, выкладалі майстэрства акцёра, асновы сцэнічнай пластыкі, грыму. Тэхніку мовы вяла Лілія Яфрэмаўна Стасевіч.

Памятаю, у наш вялікі пакой, куды мы збіраліся пасля працоўнага дня, увайшла жанчына сярэдніх гадоў, высокая, элегантная, статная. Твар разумны, валявы. Палюбілі мы нашага новага педагога адразу.

У студыі займаліся людзі розных прафесій і ўзростаў. Лілія Яфрэмаўна бачыла нас, здавалася, наскрозь. Яна захапіла студыйцаў сваёй любоўю да слова, глыбокім разуменнем прадмета, пераканаўчым і мудрым тлумачэннем прафесійных таямніц мовы — асновы майстэрства акцёра, чытальніка. Трэба было бачыць, як мы старанна, фанатычна, у неверагодным тэмпе выпальвалі скарагаворкі, трэніравалі мышцы твару, паўтаралі на ўсе лады: бі-бі-бі-бі-біпп, ба-ба-ба-ба-бапп.

Але больш за ўсё любілі мы, калі Лілія Яфрэмаўна чытала што-небудзь сама, нават калі гэта было патрэбна толькі для практыкаванняў. Хутка мы зразумелі, што... не ўмеем гаварыць. Навыкі гаворкі, набытыя ў дзяцінстве, зусім недастатковыя для публічнага выступлення. Што гаварыць і чытаць па пісаным можа кожны — вельмі пашыраная ілюзія, якая, аднак, рушыцца пры першай спробе выступіць перад мікрафонам. Работнікі радыё літаральна кожны дзень бываюць сведкамі таго, як «мікрафонабоязь» паралізуе нават спрактыкаваных «гаваруноў». Сапраўды, усе ўмеюць бегаць, але далёка не кожны становіцца чэмпіёнам. Усе ўмеюць гаварыць, але не кожнаму дадзена стаць дыктарам.

Голас Лілії Яфрэмаўны ведаюць і любяць многія радыёслухачы: амаль чвэрць стагоддзя гучыць ён у эфіры.

Дыктарская справа на радыё не толькі цяжкая і складаная, але і вельмі адказная. Менавіта дыктар — апошняе звяно паміж вялікім творчым калектывам і слухачамі. Мне здаецца, радыёгаспадарка нагадвае айсберг, у якога, як вядома, на паверхні вады толькі адна шостая, а пяць шостых схаваны ад людскога вока: гэта шматлікія рэдакцыі з карэспандэнтамі, рэдактарамі, стылістамі, гэта тэхнікі, аператары, музычныя афарміцелі, рэжысёры і г. д. Дыктар — на самай верхавіне айсберга. Ён уваходзіць у кожны дом, гутарыць сам-насам з мільёнамі радыёслухачоў. І нездарма пошта радыё вельмі часта адрасуецца дыктарам. Розныя бываюць пісьмы: нехта хоча падзяліцца радасцю або горам, іншы раз дыктара просяць «выканаць» любімую песню, зрэдку выказваюцца заўвагі і пажаданні. Але адно пісьмо з пошты Лілії Яфрэмаўны ўразіла мяне да глыбіні душы, а можа і канчаткова вырашыла мой лёс у выбары прафесіі. Пісьмо гэтае прыйшло з Прыбалтыкі. Толькі што адгрымела вайна. Асіроцелі дзеці, асіроцелі і бацькі. І вось радыёслухачы — муж і жонка — прасілі дыктара Стасевіч дапамагчы ім у вельмі далікатнай справе: схадзіць у дзіцячы дом і выбраць ім дзяўчынку, дачку. Які высокі давер, якая ўпэўненасць у сардэчнасці, чуласці незнаёмага чалавека— дыктара радыё!

У эфіры пануюць, гаспадараць дыктарскія галасы. Голас Лілії Яфрэмаўны Стасевіч не пераблытаеш з ніякім іншым: нізкі, моцны, гераічнага гучання, палымяна тэмпераментны, ён можа быць лірычным, рамантычна-ўзнёслым ці разважлівым, у залежнасці ад таго, што яна чытае. Ля мікрафона Лілія Яфрэмаўна заўсёды думае.

Думка трапная, лагічная, дакладная, «вымушае» слухаць. Думка і вельмі ўдалая, адпаведная ёй эмоцыя...

Яе працу вызначае пачуццё меры, тонкі густ, артыстызм, глыбокае разуменне радыёжанру. Мы, калегі Лілії Яфрэмаўны, бачым, як яна рыхтуецца да выхаду ў эфір. Бадай, не было яшчэ такога выпадку, каб яна грэбавала падрыхтоўкай да перадачы, калі гэта, вядома, не экстраны выпуск «Апошніх паведамленняў», хаця і тут яна ўмее сканцэнтравацца, пазнаёміцца са зместам матэрыялу і імгненна вырашыць, як яго прачытаць, дзе галоўная думка інфармацыі, а што другараднае.

Неяк у майстра мастацкага чытання Уладзіміра Яхантава спыталіся:

— Што вы робіце, Яхантаў?

Ён адказаў:

— Нічога асаблівага, я вызваляю словы з палону.

Калі слухаеш Лілію Стасевіч, літаральна чуеш, як яна «вызваляе словы з палону»...

Памятаю, сапраўднай падзеяй у эфіры стала чытанне Ліліяй Яфрэмаўнай раздзелаў з рамана Івана Мележа «Людзі на балоце». Цудам было тое, як толькі словамі актрыса ля мікрафона вылепіла вобразы рамана, прымусіла нас, слухачоў, хвалявацца, любіць і ненавідзець разам з героямі твора.

Ды ці толькі гэта? Кожны, напэўна, успомніць шмат іншых выдатных работ артысткі! У фанатэцы радыё захоўваюцца каштоўныя, непаўторныя па мастацкай дасканаласці магнітафонныя плёнкі перадач з удзелам Лілії Яфрэмаўны. Гэта інсцэніраванае апавяданне Янкі Брыля «Марыся», роля вядучай у п'есах Анатоля Дзялендзіка «Чатыры крыжы на сонцы» і Лопе дэ Вэгі «Дурнічка», паэма Аркадзя Куляшова «Заўсёды наперад!», аповесць Васіля Быкава «Альпійская балада». «Сны Веры Паўлаўны» з рамана Чарнышэўскага «Што рабіць?», «Алёнчына школа» Кастуся Кірэенкі, «Непрыгожая» Івана Шамякіна, дзе Лілія Яфрэмаўна выконвала галоўную ролю.

Калі чуеш у эфіры Лілію Яфрэмаўну, чуеш аўтара, яго герояў. Нездарма многія беларускія пісьменнікі хацелі, каб іх творы чытала менавіта Стасевіч.

Шчодра праяўляецца творчая індывідуальнасць дыктара ў мастацкім матэрыяле. Але чаго граха таіць: трапляюцца дыктару сухія, казённыя тэксты. Заслужаны артыст РСФСР Уладзімір Герцык, дыктар Усесаюзнага радыё, пісаў: «Думка і імправізацыя дапамагаюць цікава выканаць нават «суконны» тэкст. «Выратаваць» такі тэкст можа толькі выканаўца ля мікрафона. І калі слухачы не заўважылі заган журналісцкай работы, значыць, дыктар «выратаваў», «вывез», «узняў» — у гэтай складанай справе Лілія Яфрэмаўна таксама мастак.

І яшчэ адна выдатная якасць: павага да слухача. Ненадакучлівая манера чытання з такім падтэкстам: радыёслухачы, безумоўна, ведаюць, што адбываецца ў свеце, таму мы, дыктары, толькі напамінаем ім.

Па-ранейшаму яна дарадчык і настаўнік моладзі. Член дыктарскага савета, Стасевіч разам з І. Курганам адказвае за павышэнне прафесійнага майстэрства маладых дыктараў. Аднойчы камусьці з пачынаючых Лілія Яфрэмаўна тлумачыла: «Не старайся яшчэ да чытання ўстанавіць бадзёры настрой, «блакітненькі» тон перадачы. Атрымліваецца фальшывая ўзнятасць, ілжывы пафас. Хай думка народзіць пачуццё».

Сёння Лілії Яфрэмаўне Стасевіч спаўняецца 50 год. Амаль 25 з іх аддадзена дыктарскай справе. Таму проста неабходна, як гэта прынята на радыё, узяць хоць невялічкія інтэрв'ю ў людзей, якія даўно і добра ведаюць нашага шаноўнага юбіляра. Я ўзяла такія інтэрв'ю. І вось што мне адказалі...

Барыс Уладамірскі, заслужаны артыст рэспублікі, акцёр Беларускага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы:

— Лілія Стасевіч. З гэтым імем звязана мая маладосць, юнацкія мары, спадзяванні, планы, калі мы яшчэ толькі выбіралі прафесію акцёра і вучыліся ў Рэспубліканскім тэатральным вучылішчы. Не заўважыць Лілію было нельга: высокая, прыгожая, абаяльная. Да гэтага часу беражліва захоўваю фотаздымак тых год: навагодні студэнцкі баль-маскарад... І творча, і ў чалавечым сэнсе цікавыя і дарагія мінуты кантактаў з гэтай актрысай. Чулы, патрабавальны партнёр, абаяльная, мудрая жанчына! Хочацца пажадаць ёй бясконцай маладосці, вясны, вялікага творчага і чалавечага шчасця!

Марына Троіцкая, заслужаны дзеяч культуры БССР, галоўны рэжысёр Беларускага радыё:

— Інсцэніравала «Восеньскае лісце» І. Клімашэўскай. Ролю беларускай жанчыны, якая трапіла ў Амерыку і вярнулася на радзіму, выконвала Лілія Яфрэмаўна. Тыповая для эмігранта драма. У выкананні Стасевіч усё прагучала выразна, скупа, ніякай сентыментальнасці. На рэпетыцыях падумала, што яна занадта беражэ сябе. Паслухала запіс — не, тое, што трэба, эмацыянальна, дакладна, праўдзіва! І так заўсёды.

Лілія Яфрэмаўна ўзбагачае палітру твора сваім нестандартным «бачаннем». Яна эмацыянальна лёгка ўспалымняецца як у жыцці, так і ў рабоце. Беражліва адносіцца яна да роднага слова, мову ведае і любіць. На небасхіле эфіру Лілія Стасевіч — зорка першай велічыні. Няхай свеціць і надалей і доўга яшчэ!..

Уладзімір Юрэвіч, пісьменнік:

— Калі чытае Стасевіч, слова ў яе жыве не толькі знешнімі сувязямі кантэксту, але і, што вельмі важна, унутраным жыццём, багаццем фарбаў, якія выяўляюцца ледзь прыкметнымі і заўсёды выразнымі нюансамі.

У дні юбілею хочацца сказаць шмат, але ўсё зводзіцца да аднаго пажадання: яшчэ многа гадоў гаспадарыць Лілії Стасевіч у беларускім эфіры!..

Міхаіл Валатковіч, галоўны рэдактар «Апошніх паведамленняў»:

— Пяцьдзесят? Ды яна ж маладзейшая за некаторых маладых! Без Стасевіч выпускаў «Апошніх паведамленняў» не ўяўляю. Усе б так працавалі! Яна ж заўсёды разумее, каму чытае, пра што і дзеля чаго. Выдатная беларуская мова! Жадаю ўсяго самага найлепшага, так і перадайце, самага найлепшага!

І апошняе слова — заслужанаму артысту рэспублікі Іллю Кургану, кіраўніку дыктарскай групы:

— Пра мастацтва акцёра напісаны шматтомныя даследаванні. Пра дыктараў, на жаль, пакуль яшчэ мала. І нічога дзіўнага. Узрост тэатра вылічваецца тысячагоддзямі. Муза радыё маладзейшая за Мельпамену. Але калі напішуць гісторыю радыёвяшчання, у прыватнасці — беларускага, упэўнены: Стасевіч будзе адной з самых яркіх яе старонак. Лілія Яфрэмаўна — сталы майстар з яркай творчай індывідуальнасцю. Я асабліва падкрэсліваю — індывідуальнасцю! Гэта не часта сустракаецца. Гэта тое, чаму нельга навучыцца. З гэтым трэба нарадзіцца...

**Ада КАЛАМІНСКАЯ,**
дыктар Беларускага радыё.

---

ЧЫМ МОЖА адрозніваецца кабінет дырэктара кінатэатра ад кабінета дырэктара школы, швейнага атэлье або Палаца шлюбу? Хіба што — афішамі на сценах і планам пракату фільмаў пад шклом, падумаеце вы. Ды іншы раз яшчэ тэлефонных званкоў больш: просяць пакінуць «білецік» на той ці іншы сеанс...

Першае, што кінулася мне ў вочы — гэта цудоўны круглы акварыум, які мог бы ўпрыгожыць любую кватэру. У яго пукатых баках дзіўнавата адбіваўся ўвесь пакой: і шафа, забітая кнігамі, часопісамі, рознымі сувенірамі, і стол, завалены стосамі газет, сшыткаў, і карта Мінска на сцяне з зорачкамі і флажкамі, і маленькі часопісны столік у кутку, на якім акуратна складзены некалькі вялікіх сініх альбомаў. На верхнім відаць літары — «Кінатэатр «Піянер». Так выглядае кабінет дырэктара кінатэатра Фаіны Іванаўны Люцко.

З'яўляецца жаданне параўнаць гэты пакой са штабам. Увесь час сюды заходзяць работнікі кінатэатра. Вось Фаіна Іванаўна падпісвае зводку аб рабоце, вось убягае піянерважатая адной школы «за падмацаваннем» — атрымаць на школу некалькі лішніх абанементаў. Мы не памыліліся, калі дапусцілі, што тут часта звоніць тэлефон. Ён не адпачывае ні хвіліны. Толькі вось «білетная» тэма складае наўрад ці адну дзесятую размоў. То пазвоняць са школы, папросяць паказаць школьнікам новы фільм, то выклікаюць кудысьці тэхнарука праверыць школьную кінаапаратуру, то тэлефонная трубка робіцца зброяй, з дапамогай якой Люцко «выбівае» з кінапраката дэфіцытны фільм. Адным словам, тут пастаянна кіпіць работа, работа вялікая, карпатлівая, якую ніяк не назавеш кабінетнай.

Мінскі кінатэатр «Піянер» ужо даўно стаў адным з пунктаў турысцкага маршруту па нашым горадзе. Яго паказваюць латышам і кіргізам, малдаванам і грузінам, гасцям з Даніі і Аргенціны, Японіі і Венгрыі. І турысты з захапленнем гавораць пра гэты светлы, прыгожы і ўтульны палац. Некалькі месяцаў назад тут прымалі ўдзельнікаў Усесаюзнай нарады-семінара дырэктараў і педагогаў дзіцячых кінатэатраў. І госці былі задаволеныя. На гэты раз ад выдатнай работы калектыву «Піянера», ад вынікаў яго працы. Нарада прызнала мінскі «Піянер» лепшым дзіцячым кінатэатрам краіны. І зноў прыбавілася работы дырэктару. Паляцелі пісьмы з Масквы і Ніжняга Тагіла, Кіравабада і далёкага сібірскага пасёлка Усолле. І ў кожным — просьба падзяліцца

---

*З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

# «...ФЕНОМЕН, ВЫКЛЮЧНЫ МУЗЫКА»

М.-І. Гузікаў і зроблены ім музычны інструмент.

вопытам, прыслаць праграмы, абанементы, сцэнарыі.

«Піянер» адкажа на ўсе званкі, на любую просьбу. Тут кожны можа знайсці што-небудзь для сябе — ад дзесяцікласніка да малыша з дзіцячага сада. У кожнага ёсць тут свой клуб, дзе можна сустрэцца з героямі любімых фільмаў, даведацца многа новага аб тым, што пачынае цябе захапляць. Нядаўна мне давялося пабываць у гасцях у «Алёнкі». Такую назву атрымаў новы кінаклуб. Трэба было бачыць, якімі вачыма глядзелі малышы-першакласнікі на сцэну, дзе гераіня іх любімай казкі адкрывала першыя заняткі. Яна падрыхтавала сваім сябрам самыя цікавыя, самыя вясёлыя гісторыі. Дзеці ўбачаць «Казку пра цара Салтана» і «Казку пра згублены час», сустрэнуцца з «Айбалітам-66» і пабываюць у «Горадзе майстроў». Нядаўна адкрыўся і кінаклуб «Пою моё Отечество». Яго члены — вучні 6—7 класаў — зробяць захапляючыя кінападарожжы, пабываюць ва ўсіх рэспубліках нашай краіны. Для юных аматараў музыкі вось ужо 11 гадоў працуе кіналекторый «У свеце цудоўных мелодый», для тэатралаў — лекторый «Пры святле рампы». Ёсць

скіх дружын імя Гайдара і тыдзень фільмаў «Добры дзень, Гайдар!»? Хіба змаглі б цікава працаваць пры школах 17 кінатэатраў — спадарожнікаў «Піянера» (гэта яны адзначаны флажкамі на карце, якая вісіць у кабінеце дырэктара)? І сёння дырэктар «Піянера»ператварыўся ў свайго роду дырэктара раённай кінасеткі, ды і то не кожны раён можа пахваліцца 17 кінатэатрамі. І ў кожным — свой штат: касіры, кінамеханікі, адміністратары. Гэта ўсё члены клуба ЮСК.

Прыцягваючы дзяцей ў кіно, работнікі кінатэатра робяць адразу дзве вельмі карысныя і патрэбныя справы: па-першае, дапамагаюць дзецям выявіць інтарэсы, а па-другое, выхоўваюць іх. Бо кіно любяць усе дзеці — і «добрыя» і «дрэнныя». І тут, відаць, лягчэй за ўсё зацікавіць такога «цяжкавыхоўнага» хлапчука, даць яму работу па душы, выправіць тое, што калісьці не дагледзелі бацькі і школа. Напэўна, Люцко магла б прывесці доўгі спіс дзяцей, для якіх сустрэча з кінатэатрам стала своеасаблівым, можа, першым у жыцці паваротным пунктам. Бо значыў жа што-небудзь «Піянер» ў жыцці першага старшыні клуба

РЭПАРТАЖ

# СУСТРЭЧЫ, ЯКІЯ ПРЫНОСЯЦЬ РАДАСЦЬ



Яны тут гаспадары... Фото Л. КАЛЮЖНАЙ.

тут кінаклуб «Светафор» і «Тваё прызванне», «Клуб будучага воіна» і кіналекторый «Літаратурныя героі на экране», пачаў работу клуб «Закон і ты». Усяго такіх лекторыяў і клубаў зараз 19. У іх рабоце прымаюць удзел педагогі і юрысты, акцёры і ваеннаслужачыя. І кожная сустрэча, кожныя заняткі праводзяцца ў новай форме: тут і кінаранішнікі, і віктарыны, і абмеркаванні фільмаў.

І тут супрацоўнікі «Піянера» з удзячнасцю скажуць пра галоўных сваіх памочнікаў. Іх ужо каля двухсот — членаў Клуба юных сяброў кіно. У іх свае «органы ўлады» — савет клуба, свая газета, асобнае пасведчанне. Яго тры секцыі — грамадскага парадку, кінамеханікаў, забаўнікаў — вось тая асноўная сіла, якая рыхтуе большасць мерапрыемстваў кінатэатра. І каб не было тут дзіцячай ініцыятывы і самастойнасці, хіба атрымаўся б цікавым злёт піянер-

ЮСК Г. Драздзецкага, калі, стаўшы дарослым чалавекам, адслужыўшы армію, ён усё яшчэ іншы раз звоніць у кінатэатр, пытаецца аб справах, дзеліцца сваімі клопатамі.

І, канечне ж, раскажа дырэктар пра свой «штаб», пра тых, хто надоўга звязаў свой лёс з «Піянерам» — яго работнікаў. «Піянер» — кінатэатр асаблівы. Тут кожны павінен быць крыху фанатыкам сваёй справы. Гэта ж не так проста — дагадзіць дзецям! Трэба ведаць іх густы, іх характары, іх паводзіны ў зале, нарэшце. Трэба мець сапраўды «пякельнае» цярпенне, каб наладзіць правільную работу школьных кінатэатраў, прадумаць разумную, яркую, разлічаную на дзяцей рэкламу, правільна размеркаваць па школах абанементы. Гэтым займаецца адміністратар Зоя Уладзіславаўна Галямбеўская. Трэба быць сапраўдным фінансавым дыпламатам, каб на абанементах і

кінасвятах даваць план. У гэтым вялікая заслуга старшага касіра Еўдакіі Пятроўны Броўкі. Трэба па-сапраўднаму любіць дзяцей, быць «па вушы» ўлюбёным ў сваю справу, каб пастаянна насіцца з новымі ідэямі, увасабляць іх, пісаць сцэнарыі да кінасвят, складаць віктарыны. Так захоплена сваёй справай малады педагог кінатэатра Нэла Крывашэева. Паспрабуйце доўга і карпатліва рыхтаваць усялякія «кінаэфекты», як гэта робіць старшы кінамеханік Рыта Слабадская, праверыць у дзень з дзесятак кінапраектараў у розных школах горада, як тэхнарук Валянцін Астратаў... Адным словам, калі сёння мы гаворым пра «Піянер» — «лепшы дзіцячы кінатэатр краіны» — то гэта трэба разумець так: «тут працуе лепшы калектыў». Калектыў, які любіць сваю справу.

Я яшчэ раз аглядваю дырэктарскі кабінет. І нечакана пераконваюся, што ў мностве рэчаў, якія запоўнілі пакой, няма нічога лішняга. Спыткі на стале — гэта дзённікі работы клубаў, акварыум — для самых маленькіх наведвальнікаў кабінета, невялікі чырвоны альбом — для самых вялікіх. На яго старонках пакідаюць свае аўтографы госці кінатэатра: ветэраны працы і кінаакцёры, героі мінулай вайны і маладыя воіны. Тут ёсць подпісы савецкай кінаактрысы Алы Ларыёнавай і польскай «зоркі» Ірэны Карэл, кінематаграфістаў ГДР і Узбекістана. І кожны надпіс — гэта ўдзячнасць работнікам кінатэатра за іх працу, гэта жаданне сустрэцца з «Піянерам» яшчэ раз. Бо такія сустрэчы прыносяць радасць усім, — і дарослым і дзецям. Дык няхай жа іх будзе яшчэ больш — сустрэч, якія прыносяць радасць.

**Б. ГЕРСТАН.**

---

**Пра Міхаіла-Іосіфа Гузікава мала хто ведае, а між тым жыццё гэтага таленавітага музыкі надзвычай цікавае.**

**Нарадзіўся ён 2 верасня 1806 г. ў Шклове. Ян і ўсе ў сям'і, Міхаіл-Іосіф з дзяцінства іграў на флейце. Вялікія музычныя здольнасці і талент імправізацыі хутка зрабілі яго самым вядомым музыкам у наваколлі. Гэтаму садзейнічала і тое, што сям'я Гузікавых шмат падарожнічала па блізкіх і далёкіх вёсках, гарадах і мястэчках. Дабіраліся нават да Масквы, дзе таксама па-майстэрску выконвалі народныя песні.**

**У дзяцінстве Гузікаў захварэў на туберкулёз лёгкіх, а калі яму было дваццаць пяць год, хвароба прымусіла пакінуць ігру на флейце. З вялікай сям'ёй, не маючы сродкаў на жыццё, ён пачаў іграць на прымітыўным народным інструменце, які складаўся з набору некалькіх драўляных пласцінак, умацаваных на пучках саломы. Гук, як і на цымбалах, здабываўся ўдарамі дзвюх палачак. Завезены ў XV стагоддзі з Азіі, інструмент гэты быў зусім невядомы ў музычнай практыцы заходнееўрапейскіх краін. Гузікаў вырашыў яго ўдасканаліць. Колькасць пласцінак ён павялічыў, размясціў іх на трубках з плеценай саломы так, каб яны вібрыравалі. Гучаць інструмент пачаў з большай сілай. Так была створана канструкцыя, што стала асновай сучаснага ксілафона.**

**У 1833 годзе Гузікаў паехаў на штогадовы кантрактавы кірмаш у Кіеў, дзе ў тыя часы збіралася, як кажуць, уся Расія, шмат гасцей з'язджалася з многіх зарубежных краін. Не адважыўся адразу выступіць і звярнуўся да вядомага польскага скрыпача К. Ліпінскага, які быў тады ў Кіеве. Сарамліва, з мяшком, дзе ляжаў інструмент, прыйшоў правінцыял да праслаўленага скрыпача. Ліпінскі выслухаў яго і сказаў: «Сапраўды, Гузікаў, вы артыст лепшы за мяне: я ўдасканаліў зробленае іншымі, вы — самі стварылі для сябе».**

**Падбадзёраны словамі Ліпінскага, якія прыводзіў летам 1833 года «Одесский вестник», Міхаіл-Іосіф выступіў з некалькімі канцэртамі, якія прайшлі з вялікім поспехам. З Кіева ён паехаў у Адэсу. «Одесский вестник» абвяшчаў: «Артыст І. Гузікаў, які прыбыў сюды, мае гонар паведаміць шаноўнай публіцы, што ў наступны панядзелак, 14 жніўня, дасць у тутэйшым тэатры канцэрт, другі раз, на новым інструменце з дрэва і саломы».**

**Пакінуўшы ў 1834 годзе Адэсу, Гузікаў выступаў у многіх гарадах і мястэчках Галіцыі і Букавіны, у Львове і Кракаве. У 1835 годзе прыехаў у Вену.**

**Першы канцэрт у перапоўненым тэатры «Іозефштат», як і астатнія, меў незвычайны поспех. У суправаджэнні дзвюх скрыпак і баса Гузікаў выконваў арыі з опер Расіні, варыяцыі на тэмы папулярных у той час кампазітараў Хофмейстэра, Кажалуха і іншых, уласныя п'есы-імправізацыі, рускія, украінскія, беларускія, польскія, яўрэйскія народныя песні і танцы. Цудоўныя гукі незнаёмага інструмента, віртуознае майстэрства выканаўцы — усё гэта захапляла слухачоў.**

**Газеты змяшчалі шмат станоўчых водгукаў на выступленні беларускага музыкі, а венскі літаратар С. Шлезінгер выдаў нават спецыяльную брашуру «Іосіф Гузікаў і яго драўляна-саламяны інструмент. Біяграфічны і артыстычны нарыс да правільнай ацэнкі незвычайнай з'явы». Тут жа быў змешчаны партрэт Гузікава.**

**Пасля Вены Міхаіл-Іосіф (Іосіфам яго звалі на Захадзе) пабываў у многіх гарадах Германіі. Яго слухалі многія выдатныя музыкі. Кампазітар Ф. Мендэльсон, які чуў ігру Гузікава, пісаў: «Гэта сапраўдны феномен, выключны музыка, які стаіць не ніжэй любога вялікага віртуоза як па манеры выканання, так і па сваім дасканалым майстэрстве. І таму ён узрадаваў мяне сваім іграннем на гэтым драўляна-саламяным інструменце больш, чым многія сваім іграннем на фартэпіяна, хаця інструмент яго вельмі просты... Як бы там ні было, я ўжо даўно не меў такой асалоды ад канцэрта, бо Гузікаў сапраўды геній».**

**Гэта было ў Лейпцыгу ў 1836 годзе. Адсюль Гузікаў паехаў у Францыю. І паўсюды яго суправаджаў шумны поспех. Аб ім цёпла адазваўся і Ферэнц Ліст, што пісаў Жорж Санд пра «...Гузікава, якому зараз апладзіруе ўвесь Парыж...»**

**Летам 1837 года Міхаіл-Іосіф Гузікаў выступаў у Бруселі. Там ён цяжка захварэў. Як толькі яму палегчала, ён выехаў на радзіму, працягваючы па дарозе даваць канцэрты, бо ўсюды яго чакалі, а за адмену выступленняў трэба было плаціць вялікую няўстойку.**

**У горадзе Аахене яму зноў стала горш, але кантракт вымушаў выступаць. 21 кастрычніка на канцэрце Гузікаў памёр з інструментам у руках.**

**Вывучэннем і даследаваннем біяграфіі нашага земляка займаўся вядомы савецкі музыказнаўца, аўтар кніг пра Паганіні і Давіда Ойстраха, намеснік рэдактара «Музычнай энцыклапедыі» І. М. Ямпольскі. З яго дапамогай мне і ўдалося дазнацца пра беларускага музыку, займець вось гэты партрэт Гузікава.**

**М. НОЖНІКАЎ.**

г. Магілёў.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

### ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Валянцін КРЫЖЭВІЧ

## ЦЕШЧА ПРЫЕХАЛА

Настрой у мяне быў неблагі. Хутка прыязджае цешча і, нарэшце, будзе вырашана праблема прыгляду за малой Анюткай. Насвістваючы гарэзлівую мелодыю, я пацiху кіраваўся са сталоўкі да свайго цэха.

Раптам нехта ляпнуў мяне па плячы, перапыніўшы няспешны бег думак. Азірнуўся — Мішка, мой колішні аднакашнік па тэхнікуме. Толькі нешта нязвыкла заклапочаны ў яго твар.

Мішка тым часам зноў паляпаў мяне па плячы і спагадліва прамовіў:

— Ты, Віцюк, не надта бядуй. Калі што якое—заходзь, сустрэнем з Нінай як роднага. Раскладушка знойдзецца...

Не паспеў я дабрацца толку, як сябра заспяшаўся далей, выгукнуўшы на хаду:

— Завітай да шэфа, цікавіўся табой!

...Сцяпан Фёдаравіч, дырэктар завода, паглядзеў на мяне як на безнадзейнага хворага і глуха вымавіў:

— Мы тут падумалі, Кузьмянкоў... Адным словам, пераводзім цябе ў другі цэх. Зарплата, разумееш, тая самая, але заўсёды ў першую змену працаваць...

Я слухаў дырэктара, няўцямна паціскаючы плячыма, не ведаючы, што і думаць.

Сцяпан Фёдаравіч цяжка ўздыхнуў і сказаў:

— У каго з нас не было такога? Вось у мяне калісь... Эх, ды што там казаць,—ён махнуў рукой і адвярнуўся да акна.

З жахам адчуваючы, што ў начальства гатова прабіцца скупая мужчынская сляза, я выкуліўся з кабінета.

У калідоры натрапіў на старшыню рабачкома Сідоркіна. Асцярожна прытрымліваючы мяне пад локаць, нібы на слізоце, ён загаварыў:

— Цябе, можа, пячонка турбуе, ці са страўнікам што?... Кажы адразу—пуцёвачку ўраз знойдзем...

— Слухай, Сідоркін, у мяне штосьці такое выявілі?—апалым голасам запытаў я, успомніўшы пра нядаўні прафілактычны медагляд.

Сідоркін хуценька схаваўся за абшытымі цыратай дзвярыма нейкага кабінета.

Прыгнечаны, я падыбаў у цэх. Пара было прыступаць да работы.

Толькі гэта ўзяў кірунак на свой участак, як майстар Гардзей Іванавіч паклікаў да тэлефона.

На тым канцы дроту лагодны жаночы голас булькатаў:

— З месцамі ў нас у садзіку, вядома, тугавата, ды ўсё ж прыводзьце дзіця—уладкуем як-небудзь...

— Дзякуй вялікае, ужо не трэба—днямі цешча прыязджае. Прыглеміць,—невыразна прамармытаў я, кладучы трубку.

Гардзей Іванавіч дакорліва паківаў галавой.

— Не ведаеш, значыць? Прыехала ўжо яна. Цябе тут шукала... Паўзавода, як вулей, гэтым растрывожаны, а ты...

І праз кароткую паўзу дадаў:

—Малады яшчэ, жыцця не бачыў... Аднак не маркоцься, не на востраве жывеш, а сярод людзей... Дапамогуць...

...Не было б шчасця, дык гора памагло... У доме адпачынку я пабываў, працую—на першай змене, дачка ў садзік ходзіць. Ну, што яшчэ? Сплю я дома, а цешча... цешча абеды смачныя гатуе!

Мікола НАВІЦКІ

## МІКРАБАЙКІ

### АСЦЯРОЖНЫ

**З-за нікчэмных нейкіх спраў**
**Певень Пеўню дыхту даў.**
**— Міліцыя! — зароў Бульдог**
**І ў будцы ціхенька залёг.**

### ПАЛЕНА

**Кінутае ў полымя, паклося:**
**— Нарэшце... месца цёплае**
**знайшлося!..**

### ПЛЯТКАРКА

**Нашэптвала Гайка-пляткарка Балту:**
**— Ох, круціць галоўку Адвёртка**
**Вінту.**

Міхась СКРЫПКА

## ДЭМАКРАТЫЯ

**Дзе золатам, мільёнамі**
**Услаўлены багатыя,**
**Жыла-была хвалёная,**
**Як кажуць, дэмакратыя.**

**Што хочаш еш, што хочаш пі,**
**І балбачы, што хочаш,**
**І золата каўшом грабі —**
**І фермер, і рабочы.**

**Не спадабаўся прэзідэнт —**
**Забойцы ёсць з аплатаю.**
**За ўсё заплоціць бізнесмен,**
**Магнат ад дэмакратыі.**

**Пусціць любому кулю ў лоб**
**За грошы — шмат аматараў.**
**А прэзідэнтаў недахоп—**
**Тады глушы сенатараў.**

**Бядуе Сэм, відаць, аслаб,**
**Сурдут долару латае,**
**Бо Пентагон там асядлаў**
**Свабоду, дэмакратыю.**

**Плывуць штодзень у ЗША**
**Свінцом з уліку знятыя.**
**У трунах целы, а душа —**
**Шукае дэмакратыю.**

**Стаіць, паніклы, без надзей**
**Свабоды сімвал — статуя.**
**Ёй сорам за сваіх людзей**
**Ад гэткай дэмакратыі.**

П. ФІЛІПАЎ

## ФРАЗЫ

*Акцёр вельмі баяўся люстэрка: яно паказвала яго творчае абліччa.*

□

*Сем разоў адмерай, але не спяшайся адразаць — узгадні з начальствам.*

□

*Толькі двукоссям не сорамна прысвойваць чужыя думкі.*

□

*Пра амплітуду ваганняў разважаюць не толькі маятнікі.*

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.





— Сігналізуе, што будзе абганяць...



— Я падрыхтавала сюрпрыз — пашыла максі-сукенку.
— Я таксама падрыхтаваў сюрпрыз.






МЕГАН

## НАСМАРК

Пазваніў паэт Расланэк і сказаў, што ў яго насмарк і што вячэраць ён будзе дома. На ўсякі выпадак мы пайшлі да Расланэка праведаць яго і пераканацца, ці сапраўды ў яго насмарк.

— Хворыя часта не звяртаюць увагі на хваробу,—сказала баранеса. — Можа гэта насмарк, а можа што-небудзь і больш сур'ёзнае. Паглядзім.

Расланэк сядзеў у піжаме і ласаваўся яешняй. Тут жа стаяла паўлітроўка чыстай.

— Што з табой?—запыталі мы.

— Насмарк у мяне, — сказаў Расланэк.

— Выклікаў доктара?

— Не.

— Дык выкліч, — сказаў пан Куця. — Найлепш педыятра.

Паэт Расланэк выпіў кілішак і тут жа наліў сабе наступны.

— Вы што, звар'яцелі?!—запытаў ён. — Навошта мне выклікаць педыятра?

— На ўсякі выпадак,—адказаў пан Куця.—Дзіцячыя хваробы небяспечныя для дарослых.

Расланэк выпіў і нічога не адказаў.

— Можа табе зрабіць пнеўматоракс? — сказала баранеса.— Альбо паставіць банькі? Але лепш няхай скажа доктар.

— Навошта вы прыйшлі сюды?—запытаў Расланэк.—На якое ліха?

— Мы не пакінем цябе аднаго,—катэгарычна адказала баранеса.—А можа трэба, каб цябе паглядзеў хірург?

Расланэк кінуў у баранесу яешняй, але не папаў.

— Дрэнныя з ім справы, — задумаўшыся, сказаў Бяспальчык.

— У мяне насмарк!—усклікнуў Расланэк. — Дайце мне спакойна пахварэць.

— Можа, гэта нервовае захворванне,—разважыў уголас Бяспальчык. — Бываюць дзіўныя сімптомы.

Расланэк пачаў кідаць у нас чым папала і супакоіўся толькі пасля ўкола, які зрабіў яму доктар з «хуткай дапамогі». Пасля ўжо спакойна паехаў у бальніцу.

Дык вось. Добра што мы пайшлі яго праведаць. А яму здавалася, што гэта насмарк.

З польскай пераклаў Уладзіслаў СТРУМІЛА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 07962

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.